ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№1 (46) студзень 2015 год

CATHOLICNEWS.BY



## Дапамога па аб'яве, або Як растапіць лёд на сэрцы?

Стар. 8




## Крест и медальон святого Бенедикта

Стр. 13

## 2014-ы – год пераследу хрысціянаў

Стар. 3



## Сужэнская клятва

Стар. 6



## Как дать хорошее религиозное воспитание ребёнку?

Стар. 12

## Насіць рэчы з беларускім арнаментам – грэх?

Стар. 14





# Францішак у Шры-Ланцы



Касцёл у Маду ў Шры-Ланцы, які наведае Папа Францішак.

**Трэці дзясятак гадоў беларускія каталікі чакаюць візіту Папы Рымскага ў сваю краіну. Вернікі, якія ў свой час складалі каля 85% насельніцтва краіны, доўгі час не маюць магчымасці вітаць кіраўніка Сусветнага Касцёла ў сябе на Радзіме з прычын не зусім зразумелых, насуперак жаданню самога Святога Айца і згоды кіраўніцтва краіны.**

**а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*

Тым часам Святога Айца з радасцю сустракаюць у краінах нават не хрысціянскіх. Адной з апошніх наведаных Папам краін была ісламская Турцыя, візіт у якую адбыўся ў лістападзе 2014 г. Сустрэчы са Святым Айцом дачакалася і пераважна будысцкая Шры-Ланка.

Калі студзеньскі нумар "Каталіцкага Весніка" дойдзе да чытачоў, Францішак ужо наведае Шры-Ланку. Візіт адбудзецца 13-14 студзеня 2015 г., неўзабаве пасля прэзідэнцкіх выбараў у гэтай краіне. Як паведамляе Беларуская служба Ватыканскага радыё, у аўторак, 13 студзеня, у Каломба мае быць міжрэлігійная сустрэча, вельмі важная для краіны, 70% насельніцтва якой складаюць будысты, 12-13% – паслядоўнікі індуізму, 10% – мусульмане і толькі 7% – хрысціяне, пераважна каталікі.

Нягледзячы на стэрэатыпы, хрысціяне хоць і складаюць выразную рэлігійную меншасць на востраве, усё ж не з'яўляюцца там чужымі. Паводле традыцыі, першым прапаведнікам хрысціянства на Шры-Ланцы быў апостал Тамаш у I стагоддзі. Пасля яго прыбыцця невялікія хрысціянскія паселішчы засноўваліся на беразе вострава. Хрысціянскае насельніцтва значна павялічылася і ўзмацнілася з прыбыццём першых партугальскіх місіянераў у XV стагоддзі. У XVII стагоддзі Шры-Ланкай авалодалі галандцы, і да 1722 года галандскія місіянеры змаглі навярнуць 21% насельніцтва Шры-Ланкі ў хрысціянства. На сёння ўдзельная вага хрысціянаў тут істотна зменшылася, але 88% сучасных хрысціян, якія пражываюць у асноўным у паўночна-заходняй частцы вострава, складаюць каталікі.

На сераду, 14 студзеня, запланавана Святая Імша з нагоды кананізацыі блаславёнага Джозефа Ваза, рэлігійнага дзеяча, які адыграў важную ролю ў евангелізацыі Шры-Ланкі ў XVII-XVIII стст. Джозеф Ваз родам з Індыі, пасля навучання ў езуіцкім калегіуме становіцца святаром і, даведаўшыся аб бядотным становішчы каталікоў на Цэйлоне, у 1686 г. едзе туды, каб акармляць там мясцовых вернікаў. У 1696 г. у ваколіцах горада Кандзі, сталіцы краіны, здарылася засуха, і кіраўнік Кандзі заклікаў манахаў-будыстаў маліцца аб дажджы. Джозеф Ваз таксама далучыўся да малітвы, паставіўшы алтар з крыжам у цэнтры плошчы. Адразу пасля яго малітвы пайшоў праліўны дождж, які зусім не намачыў алтар, збудаваны Джозефам Вазам.





Мужчына ў Філіпінах прадае майкі з выявай Папы Францішка.

> **У Шры-Ланцы 70% насельніцтва складаюць будысты, 12-13% – паслядоўнікі індуізму, 10% – мусульмане і толькі 7% – хрысціяне, пераважна каталікі**

Пасля гэтай падзеі кіраўнік Кандзі дазволіў яму беспераШкодна прапаведаваць хрысціянства па ўсёй краіне. Ад гэтага часу блаславёны пачаў арганізоўваць каталіцкія місіі па ўсім востраве. 21 студзеня 1995 г. місіянер быў абвешчаны блаславёным падчас візіту Папы Яна Паўла II на Шры-Ланку.

Пасля Імшы Францішак памоліцца ў Святыні Маці Божай Ружанцовай у Маду – на поўначы краіны, дзе большасць насельніцтва складаюць тамілы, карэннае насельніцтва Паўднёвай Індыі, якое было адным з бакоў грамадзянскай вайны, што пачалася ў ліпені 1983 г. Тады баевікі з «Тыграў вызвалення Тамія-Ілама» забілі 13 салдат.

Вайна скончылася толькі ў 2009 г. дзякуючы рашучым дзеянням арміі і ўрада на чале з прэзідэнтам Махінды Раджапаксы. У сваім звароце Папа Францішак надасць асаблівую ўвагу неабходнасці прымірэння пасля канфлікту.

Са Шры-Ланкі Святы Айцец накіруецца на Філіпіны, найбольшую каталіцкую краіну ў Азіі. Па дарозе назад ён, чарговы раз пралятаючы над Беларуссю, накіруе прывітальную тэлеграму кіраўніку нашай краіны, а сотні тысяч каталікоў Беларусі, з надзеяй гледзячы ў неба, і надалей застануцца ў чаканні таго, калі нарэшце самалёт Рымскага Пантыфіка атрымае магчымасць прызямліцца на беларускай зямлі.





# Папа Францішак сустрэўся з Анжэлінай Джалі

**8 студзеня 2015 г. адбылася сустрэча Папы Францішка са знакамітай амерыканскай актрысай Анжэлінай Джалі.**

Кіназорка прыбыла ў Ватыкан з нагоды дэманстрацыі фільма "Нязломлены", прадзюсерам якога яна з'яўляецца. Гэта стужка *"прадстаўляе каштоўнасці, станоўчыя з чалавечага і духоўнага пунктаў гледжання, у першую чаргу, каштоўнасць прабачэння"*, – адзначыў у сваім каментары кіраўнік "Залы друку" Апостальскай Сталіцы.

Нядаўна падчас здымкаў фільма пра атлета-хрысціяніна Луіса Дзамперыні актрыса ўпершыню публічна малілася пра цуд, каб скончыць здымкі. Ёй патрэбна было сонечнае надвор'е, каб закончыць здымаць вельмі важную апошнюю сцэну фільма. Але ўвесь час ішоў моцны дождж.

Анжэліна сказала: *"Не ведаю, як я гэта буду рабіць, але паспрабую пайсці па прыкладзе Луіса"*. Потым яна стала на калені і памалілася пра цуд. Дождж спыніўся. З'явілася сонца і вясёлка. Як толькі



Джалі пракрычала "знята", зноў пайшоў дождж.

Пасля прагляду, што праходзіў у сядзібе Папскай акадэміі навук, пры ўдзеле некалькіх дыпламатаў і ватыканскіх іерархаў, Анжэліна Джалі са сваімі двума дзецьмі і яшчэ некалькімі асобамі мелі магчымасць прывітаць Папу Францішка ў яго прыватнай бібліятэцы ў Апостальскім палацы, – распавёў кс. Ламбардзі.

*"Гэта вялікі гонар – быць запрошанымі Папам Францішкам у Ватыкан. Я лічу гэта знакам пашаны да чалавека веры, які сваім жыццём даў сведчанне аб сіле прабачэння і чалавечага духу"*, – сказала актрыса, маючы на ўвазе Луіса Дзамперыні – амерыканскага спартсмена, удзельніка Алімпійскіх гульняў у Берліне ў 1936 г., пра жыццё якога апавядае яе новы фільм.

*Ватыканскае Радыё*

# 2014-ы – год пераследу хрысціянаў

**Міжнародная дабрачынная праваабарончая хрысціянская арганізацыя Open Doors апублікавала спіс пад назвай World Watch List, які ўяўляе сабой рэйтынг краін паводле ступені свабоды веравызнання ў гэтых дзяржавах. У той час, як 2014-ы ўвойдзе ў гісторыю як год з самым высокім узроўнем ганенняў на хрысціян у цяперашні час, сённяшнія ўмовы паказваюць, што горшае яшчэ наперадзе.**

> **„Каля 100 млн. хрысціян зведалі ганенні, што робіць хрысціянства адной з самых пераследаваных рэлігійных груп у свеце"**



Open Doors выпусціла свой штогадовы World Watch List 7 студзеня 2015 года. Тут разглядаецца 50 краін, дзе найбольш небяспечна і цяжка быць хрысціянінам. У гэтым годзе крытэрыі траплення ў спіс для краін былі вышэйшыя. Гэта азначае, што ва ўсім свеце ўзровень пераследу хрысціян узрос.

На першым месцы ў спісе 2015 года 13-ы год запар знаходзіцца Паўночная Карэя.

Самы хуткі рост пераследу хрысціянаў прыпадае на Афрыку. На Блізкім Усходзе ідзе мэтанакіраваная атака на хрысціянства, у выніку якой адбываецца масавы зыход паслядоўнікаў Хрыста.

Каля 100 млн. хрысціян зведалі ганенні, што робіць хрысціянства адной з самых пераследаваных рэлігійных груп у свеце.

Ісламскі экстрэмізм з'яўляеццаасноўнайкрыніцай пераследу ў 40 з 50 краін у World Watch List. Пераследы могуць прымаць самыя розныя формы. Хрысціяне ва ўсім свеце рызыкуюць быць пазбаўленымі волі, падвяргаюцца катаванням, гвалту і нават смерці праз іх веру.

"Навatдзяржавызбольшасцю хрысціян адчуваюць беспрэцэдэнтны ўзровень адчужэння, дыскрымінацыі і гвалту. У 2015 World Watch List паказвае, што велізарная колькасць хрысціян становіцца ахвярай нецярпімасці і гвалту з-за сваёй веры. Яны вымушаны хаваць сваю веру", – сказаў прэзідэнт і галоўны выканаўчы дырэктар Open Doors ЗША Дэвід Кары.

### Блізкі Усход

Блізкі Усход застаецца адным з самых жорсткіх раёнаў свету для хрысціян. Гвалт супраць хрысціян з боку групоўкі "Ісламская дзяржава" і іншых ісламскіх тэрарыстычных груп вырасла ў такіх краінах, як Ірак (3-е месца) і Сірыя (4-е месца). Больш за 70% хрысціян збеглі з Ірака з 2003 года, і больш за 700 тыс. хрысціян пакінулі Сірыю з пачатку грамадзянскай вайны ў 2011 годзе. Пашырыліся таксама пераследы ў Афганістане і Пакістане.

### Афрыка

Ужо трэці год запар большасць афрыканскіх краін на World Watch List узнялася ў рэйтынгу праз ісламскі экстрэмізм. У Кеніі назіраецца найбольшы скачок экстрэмізму. Краіна перамясцілася ў рэйтынгу з 43-ай на 19-ую пазіцыю. Пры адсутнасці дзеючага ўрада пераследы хрысціян застаюцца сур'ёзнымі ў Самалі, якая захавала 2-е месца ў спісе. Паўночны і Паўднёвы Судан (6 месца) і Эрытрэя (9 месца) знаходзяцца ў першай дзясятцы. Нігерыя (10 месца) з'явілася ў першай дзясятцы ўпершыню.

### Азія

Паўночная Карэя застаецца найбольш небяспечным і складаным месцам для хрысціян. Паводле некаторых ацэнак, 70 тыс. хрысціян знаходзіцца ў турме за сваю веру. Умовы таксама пагоршыліся для хрысціян па ўсёй Азіі. У такіх краінах, як Узбекістан (15 месца), В'етнам (16 месца) і Індыя (21 месца) назіраецца рост пераследаў. Асабліва трэба адзначыць Індыю, дзе пераслед абумоўлены ісламскім экстрэмізмам і індуісцкім фундаменталізмам.

### Пераслед хрысціян

Пераследам хрысціян называецца любая варожасць у выніку ідэнтыфікацыі чалавека з Хрыстом. Апошнія прыклады пераследаў уключаюць турэмнае зняволенне, катаванні, абезгалоўліванне, гвалт і страту дома і маёмасці. У той час, як гвалтоўны пераслед найбольш часта асвятляецца ў сродках масавай інфармацыі, негвалтоўныя ганенні таксама на ўздыме. Такія формы пераследу рэзка ўзраслі ў Іраку, Сірыі і Нігерыі, але хрысціяне і ў іншых краінах адчуваюць ганенні ў асабістым жыцці праз сям'ю, супольнасць і нацыянальныя сферы жыцця. Хрысціяне часта падвяргаюцца выгнанню з боку сям'і, страчваюць працу і нават не прымаюцца грамадствам.

*katolik.ru*

# 65 гадоў Беларускай рэдакцыі "Радыё Ватыкана"

**6 студзеня споўнілася 65 гадоў Беларускай рэдакцыі "Радыё Ватыкана"**

Ватыканскае радыё — гэта радыёстанцыя Апостальскай Сталіцы з сядзібай у горадзе-дзяржаве Ватыкан. Заснавана Гульельмам Марконі, і ўрачыста адкрыта Піем XI 12 лютага 1931 г.

На сёння налічвае больш за тры дзясяткі рэдакцый, што вяшчаюць на нацыянальных мовах.

Вяшчанне па-беларуску пачалося 65 гадоў таму.

У 1949 г. ініцыятыўная група, у якую ўваходзілі некаторыя беларусы, сярод каторых кс. Пётр Татарыновіч, а. Леў Гарошка, а. Чэслаў Сіповіч (у будучыні біскуп), а таксама інжынер Рыдлеўскі, пачала рабіць намаганні, каб Папскае радыё транслявала свае праграмы і на беларускай мове. Падчас асабістай аўдыенцыі ў Папы Пія XII яны прадставілі Святому Айцу зварот з просьбай дазволіць заснаваць праграму для беларусаў.

Пантыфік даў сваю згоду, і 6 студзеня 1950 г. пачалася рэгулярная трансляцыя праграм па-беларуску.

Менавіта Ватыканскае радыё стала першай радыёстанцыяй за межамі Беларусі, якая пачала вяшчанне на беларускай мове. Першым дырэктарам Беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё стаў а. Пётр Татарыновіч.

Беларуская праграма Ватыканскага радыё перадавала навіны пра жыццё Касцёла ў свеце і пра дзейнасць пантыфіка. Вялікая частка праграм была прысвечана рэлігійным і адукацыйным тэмам.

Сёння Беларускай рэдакцыяй кіруе кс. Аляксандр Амяльчэня – святар Віцебскай дыяцэзіі.

*паводле пп.by*


а. Пётр Татарыновіч

# У Турцыі ўпершыню за 90 гадоў пабудуюць хрысціянскі храм

**У Турцыі пабудуюць першую пасля распаду Асманскай імперыі ў 1923 годзе хрысціянскую царкву.**

Пра такое рашэнне прэм'ер-міністр краіны Ахмет Давутаглу абвясціў на сустрэчы з прадстаўнікамі немусульманскіх рэлігійных супольнасцяў у Стамбуле. Царква будзе размяшчацца ў прыгарадзе Стамбула на беразе Мармуровага мора, дзе ўжо ёсць храмы хрысціянскіх меншасцяў – Грэцкай праваслаўнай, Армянскай і Каталіцкай цэркваў.

Будаўніцтва першай на тэрыторыі Турцыі за мінулыя 92 гады хрысціянскай царквы будзе аплачана не ўладамі краіны, а сірыйскай супольнасцю, якая падала прашэнне аб узвядзенні храма.

«Гэта будзе першая царква з моманту заснавання Турэцкай рэспублікі», – заявіла крыніца ў турэцкім урадзе. Яна растлумачыла, што раней цэрквы толькі аднаўляліся ці зноў адкрываліся для публікі. Так, сірыйскай супольнасці вярнулі іх рэлігійную ўласнасць – манастыр Мор-Габрыэль у Мардзіне. Аднак новыя хрысціянскія храмы ў краіне не будаваліся.



Колькасць сірыйскіх хрысціян у Турцыі – крыху менш за 20 тыс. чалавек. Яны жывуць у асноўным на паўднёвым усходзе краіны і, як правіла, наведваюць альбо праваслаўную, альбо каталіцкую цэрквы. За апошнія гады колькасць хрысціян узрасла ў сувязі з прытокам у краіну ўцекачоў з Ірака і Сірыі. Кіроўная партыя Турцыі часта падвяргаецца крытыцы за празмерную падтрымку ісламу ў свецкай дзяржаве.

Тым не менш кіраўнік кабінета міністраў заявіў, што ўрад не лічыць якую-небудзь рэлігійную ці культурную традыцыю аўтсайдарам. Ён таксама дадаў, што ўлады Турцыі ставяцца з роўнай павагай да веравызнання ўсіх грамадзян.

Папа Францішак падчас свайго нядаўняга візіту ў Турцыю заклікаў пакласці канец "паляванню" на хрысціян, асудзіў і так званыя "хрысціянафобскія" ганенні ў Сірыі і Іраку. Папа Рымскі Францішак і Патрыярх Канстанцінопальскі Варфаламей I заклікалі да "канструктыўнага дыялогу" з ісламам на аснове "ўзаемнай павагі і сяброўства".

*russian.rt.com*

# Фестываль “Зорка Бэтлеему-XIV”




**У чатырнаццаты раз у суботу, 3 студзеня, у Мёры з’ехаліся дзеці і моладзь з розных куточкаў Віцебскай дыяцэзіі і з Магілёва, каб праслаўляць Божае Нараджэнне на фестывалі “Зорка Бэтлеему”.**

■ **Вольга Вішнеўская**, *тэкст;* **Казімір Блажэвіч**, *фота*





Прыбылі на конкурс каляднай песні ў гэтым годзе выступоўцы з Пастаў, Слабодкі, Друі, Шаркаўшчыны, Варапаева, Браслава, Наваполацка, Віцебска і Магілёва, а таксама ўдзельнічалі і самі мярчане.

Пасля ранішняй службы ў касцёле вернікі накіраваліся ў РДК, куды з асаблівым хваляваннем рушылі і канкурсанты. Пачаўся фестываль малітвай. Пробашч парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і арганізатар конкурсу ксёндз Крыштаф Мянкіна сардэчна вітаў гасцей і гледачоў. Ганаровым госцем на мерапрыемстве стаў ксёндз-біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Ён падкрэсліў, што той, хто прыехаў на конкурс, ужо атрымаў перамогу, і пажадаў усім удзельнікам прыемных пачуццяў ад сустрэчы, на якой маецца такая цудоўная магчымасць узаемнага праслаўлення Бога, а таксама шчырага натхнення.

Вядоўца Аляксандр Сінкевіч прадставіў журы, у склад якога ўвайшлі магістр мастацтваў і арганнай музыкі, арганістка з Наваполацка Іна Шпілеўская, магістр і музыказнаўца сакральнай музыкі Дзмітрый Гарэлаў, пробашч парафіі ў Дунілавічах ксёндз Павел Самсонаў, выкладчыца Мёрскай школы мастацтваў Зінаіда Пучкоўская і ксёндз Вячаслаў Пялінак (старшыня журы) з Глыбокага.

Трэба адзначыць, што ўзровень конкурсу як у плане музычным, так і прафесійным мастацкім за сваю кароткую гісторыю значна вырас, імпрэза набыла папулярнасць. Вядомыя калядкі падпявалі і гледачы, а выступоўцаў яны шчодра ўзнагароджвалі апладысментамі. Друйскай моладзі з інтэрната ў зале падтанцоўвалі канкурсанты з Браслава, тым самым падкрэсліваючы салідарнасць у праслаўленні свята Божага Нараджэння. Выкананне лірычных кампазіцый самымі малодшымі ўдзельнікамі кранала тонкія струны душы гледачоў.

У невялікіх перапынках паміж выступленнямі вядоўца Ірына Качан пераўвасаблялася ў розныя вобразы, праводзіла конкурсы, чым забаўляла гледачоў і дазваляла няспешна падрыхтавацца наступным спевакам.

Фестываль доўжыўся да вечара. Атмасфера салідарнасці і актыўнасці не дазваляла стамляцца, а наадварот, узбадзёрвала. Таму ў перапынку, пакуль кампетэнтнае журы падводзіла вынікі, у фае РДК праходзілі танцавальныя хвіліны.

Пачаў падсумоўваць конкурсны песенны дзень старшыня журы ксёндз Вячаслаў Пялінак такімі словамі: “Вельмі важна, што на сцэне зноў шмат дзяцей. Былі розныя перыяды ў конкурсе, калі спявалі пераважна студэнты ці людзі, якім за 20. А зараз канкурсанты сталі “маладзец”, і гэта радуе!”



На сцэну запрасілі самых маленькіх удзельнікаў, якім усяго ад пяці да сямі гадоў, з Віцебска і Магілёва. Яны прачнуліся раней за ўсіх, каб дабрацца да Мёраў. За ўдзел у фестывалі і сімпатыяй журы былі адзначаны дзяўчаты са Слабодкі, дуэт Паўла Каскевіча і Яўгеніі Баговіч з Мёраў, Аліна Казаровец з Варапаева, Ганна Пазняк і Паліна Валеўка з Мёраў, моладзь з Друйскага дома-інтэрната, якая ўпершыню прыбыла на конкурс.

Падсумоўвала пачутае і пабачанае журы ў дзвюх узроставых групах: дзеці і моладзь. Найбольш складана выконваць сольныя нумары. Таму гэтую намінацыю вылучылі першай. Сярод дзяцей дыплом трэцяй ступені атрымаў Іван Гіко з Пастаў, а другой ступенню ўганаравана Яна Піртань з Браслава. Дыплом першай ступені заслужыла Эліна Пілат.

Сярод моладзі толькі адзін дыплом быў прысуджаны за першае месца – Ірыне Іршонак з Варапаева. У намінацыі “гурты” сярод дзіцячых калектываў трэцяе месца атрымалі віцебскія хлопчыкі і дзяўчынкі, другое падзялілі групы з Магілёва і Наваполацка.

Шмат было выступленняў моладзевых гуртоў, каля дзесяці, і ўсе яны атрымалі высокую ацэнку журы. У гэтай намінацыі трэцюю пазіцыю падзялілі “суседзі” – Браслаўская і Мёрская парафіі. А вось пераможцамі адзінагалосна журы вылучыла гурт з Шаркаўшчыны.

Пераможцам і прызёрам уручаны дыпломы і каштоўныя падарункі, астатнія канкурсанты дадому вярталіся таксама з памятнымі ўзнагародамі.

Біскуп Алег Буткевіч звярнуўся да арганізатараў і ўдзельнікаў з такімі словамі: “У першую чаргу хочацца фестывалю пажадаць развіцця, каб тое добрае, што ўтварылася і стала традыцыяй, павялічвала колькасць удзельнікаў і конкурс узрастаў творча. Божага бласлаўлення ў жыцці кожнага з тых, хто прымае ўдзел”.

Закончыўся чарговы фестываль, прысутныя атрымалі бласлаўленне ад біскупа і станоўчыя эмоцыі ад цёплай каляднай атмасферы. Несумненна, добрая традыцыя і ў наступным годзе збярэ ў Мёрах юных вернікаў, якія зноў праслаўляць Нараджэнне Езуса сваімі музычнымі, вакальнымі і артыстычнымі талентамі.



# Конкурс нацыянальнай батлейкі ў Віцебску

**Конкурсам нацыянальнай батлейкі з удзелам дзіцячых калектываў каталіцкіх парафій Віцебскай дыяцэзіі скончыўся XIII фестываль "Дні хрысціянскай культуры" ў Віцебску. Ён праходзіў 9 студзеня ў Палацы творчасці дзяцей і моладзі Чыгуначнага раёна Віцебска.**

■ **Таццяна Смоткіна**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*



Як кажа арганізатар конкурсу пробашч Віцебскай парафіі Езуса Міласэрнага кс. Адам Дынак, свае батлейкі на фестывалі ў гэтым годзе прадставіла больш калектываў чым летась, што не можа не радаваць. У мінулым годзе прыехалі толькі тры калектывы. Сёлета ж – 10, нават з такіх аддаленых парафій, як Лынтупы, Мёры, Браслаў. Ён спадзяецца, што і надалей актыўнасць не спадзе і дзіцячыя групы будуць радаваць сваёй творчасцю.

Пасля прагляду ўсіх батлеек у прысутных засталіся толькі самыя добрыя ўражанні. Але больш за ўсіх запомніўся калектыў з Браслава. Ён вылучаўся асаблівым прафесіяналізмам і ў яго склад уваходзілі не толькі дзеці, але і дарослыя.

Як кажа Іна Сапун, арганістка Браслаўскай парафіі і кіраўнік дзіцячага калектыву, яны ладзяць розныя спектаклі з 1991 года, таму для іх гэта не новае. А калядная тэма значная і ў тым, што людзі звычайна рыхтуюцца да свята толькі знешне, а пра душу не надта клапоцяцца. Таму, ствараючы сцэнар, яны стараліся паказаць моманты з жыцця розных сем'яў – і шматдзетных, і заможных, і менш забяспечаных, і сем'і, у якіх людзі пакрыўджаныя праз нейкі грэх і недасканаласці. "Жыццё вельмі хутка сканчаецца, таму вельмі важна добра яго пражыць", – кажа спадарыня Іна.

На фестывалі прысутнічаў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч, які падзякаваў усім, хто ў нялёгкіх метэаўмовах даехаў на мерапрыемства. Ён паабяцаў маліцца за ўсіх прысутных і пажадаў, каб гэтае спатканне ў сэрцах людзей пакінула радасць Божага Нараджэння.

Напрыканцы ўсе ўдзельнікі конкурсу батлеек атрымалі дыпломы за першае месца. Бо, як сказаў ксёндз Адам Дынак, гэта, хутчэй, быў не конкурс, а фестываль дзіцячых талентаў. Калектывам уручылі каштоўныя прызы і пачаставалі салодкімі прысмакамі.

Акрамя батлейкі, у межах XIII фестывалю "Дні хрысціянскай культуры ў Віцебску" былі праведзены таксама выставы прац дзіцячай творчасці, святочныя канцэрты, сустрэчы чытачоў. Арганізавалі і тэатралізаванае наведванне пацыентаў дзіцячых аддзяленняў Віцебскай абласной клінічнай бальніцы ды іншыя мерапрыемствы.

# Сужэнская клятва

**Розныя ёсць пакліканні. Самае распаўсюджанае – да стварэння сям'і. Мы ідзём за гэтым пакліканнем і ў нейкі момант адчуваем, што гэта складаны шлях. Прыкладам таму можа служыць вялікая колькасць разводаў у нашай краіне.**

**Аксана Дашкевіч**



Часам паўстае пытанне: «Як вытрываць да канца? Як споўніць тую клятву, якую свядома далі адно аднаму падчас шлюбу?» Зусім нядаўна адзін ксёндз сказаў словы, якія мне падаліся вельмі мудрымі і важнымі. Таму хачу падзяліцца імі з вамі. А сказана так: «Было б добра, каб сужэнцы прыпаміналі свой шлюб, калі раз і назаўсёды зрабілі самастойны выбар, без усялякага прымусу. І гэты свой выбар трэба аднаўляць штодзённа, нібы кажучы: «Сёння я таксама, можа нават робячы нейкія высілкі, выбіраю быць вернай Пану Богу і тым словам, якія сказала свайму абранаму».

Шкада, што мы не знаходзім часу на такія разважанні...

Але прыемна, што касцёл дбае пра сям'ю ўвогуле. Дзякую нашым сёстрам законным з Полацка, асабліва сястры Валянціне, што прапанавала нам, парафіяльным сем'ям, звярнуцца да ксяндза з просьбай аднавіць сужэнскую клятву ўрачыста, на Свята Святой Сям'і 28 снежня.

Ведаеце, мы жывём сабе ў клопатах, самі да такога ніколі б не дадумаліся! Так і вырашылі. Ксёндз Францішак некалькі разоў рабіў аб'явы і запрашаў сужэнскія пары розных узростаў.

І як мы былі здзіўленыя, калі падчас імшы, а 12-й гадзіне, ксёндз прапанаваў сужэнцам выйсці ў цэнтр касцёла! Усім ахвотным ледзьве хапіла месца! Цісනуліся як маглі...

Мы з мужам таксама ў гэтай грамадзе спрабавалі знайсці сабе месца, а яшчэ пад нагамі нашы дзве дачушкі круцяцца... Аж чую, што мяне нехта за руку цягне. Азірнулася, а гэта бабулечка, якая кажа: «І я! І я хачу аднавіць клятву!» Гавару ёй: «Тут трэба быць з мужам». А яна мне: «Ён ужо памёр». Я разгубілася, прапаную: «Трэба ў сястры спытаць, але, напэўна, не трэба аднаўляць....». Яна яшчэ крыху пастаяла, а потым села на лавачцы побач і проста назірала.

Пасля неяк думкі міжволі вярталіся да той бабулі. Споўніла яна клятву ці не, ведае толькі Пан Бог. Але змяніць яна ўжо аднаго нічога не можа. А мы можам шмат зрабіць, ну хаця б нарадзіць яшчэ дзетак і паспрабаваць давесці нашыя адносіны з мужам да больш высакародных.

Яшчэ раз дзякую ксяндзу Францішку, нашым дарагім сёстрам, а таксама ўсім сем'ям, якія далучыліся да гэтага мерапрыемства.

# Віншаванне Апостальскага Нунцыя братам-праваслаўным з нагоды Раства Хрыстова

**Дарагія браты і сёстры Беларускай Праваслаўнай Царквы! У той час, калі вы набліжаецеся да ўрачыстага святкавання Раства Хрыстова, прагну скіраваць да вас ад імя Францішка – Папы Рымскага – поўныя цеплыні віншавальныя словы. Жадаю, каб нараджэнне Госпада Ісуса Хрыста рассеяла цемру адчаю, варожасці і страху і ўзмацніла ўпэўненасць у тым, што Бог верны і Яго збаўленне назаўжды.**

Я рады таму, што ў мінулым годзе ў вашай Царкве павялічылася колькасць епархій і епіскапаў таксама і ў Беларусі. Няма месца для зайздрасці і канкурэнцыі. Калі адна Царква развіваецца, расце ўсё Цела Хрыстова і абвяшчаецца Яго Евангелле. Хрыстос адзін і Евангелле адно. Радасць аднаго з членаў – гэта радасць усіх і ўсяго Цела Хрыстова.

У дзень Раства Хрыстова малюся разам з вамі і за вас. Калі гісторыя нас падзяліла, то малітва павінна нас з'яднаць. Чаго вартае наша сведчанне, калі мы не здольныя нават маліцца разам? Хрыстос сказаў: *"Дзе двое ці трое сабраліся ў імя Маё, там Я ёсць сярод іх"* (Мц 18, 20). Ён не ставіў умоваў сваёй прысутнасці. Гэта мы ставім умовы. Калі мы молімся разам і Хрыстос ёсць сярод нас, як можам мы адчуваць падзел між намі? Ці ж Хрыстос будзе толькі з адным з братоў, якія моляцца, і не будзе з іншым? Мы можам сказаць: *"Я – Паўла"*, альбо *"Я – Апаласа"* (пар. 1Кар 3, 4). Апостал Павел моцна папракаў за падзелы, якія імкнуцца сягнуць самога Хрыста, у той час калі гэта грэх супраць Яго жадання, *"каб усе былі адно"* (Ян 17, 21). Мы павінны нанова навучыцца крочыць разам.

Прашу, каб Бог дараваў сваё міласэрнае благаслаўленне ўсім вам: Мітрапаліту Паўлу, архіепіскапам, епіскапам, святарам, дыяканам, манахам і манахіням, сем'ям вернікаў, сем'ям, у якіх адзін з сужэнцаў – праваслаўны, а другі – католік (якія даюць нам прыклад таго, як любоў гоіць усе падзелы, таму што Бог – гэта любоў), дзецям і пажылым людзям, хворым і самотным.

Усёй Царкве жадаю ўзмацніцца ў веры, бо вернікі для гэтага і існуюць, і служыць беларускаму народу, любіць і шанаваць яго як самабытную, адметную і каштоўную частку чалавецтва, збаўленага Богам.

***catholic.by***

*(тэкст апублікаваны ў інтэрнэт-прасторы 6 студзеня 2015 г.)*

# У Лучаі адбылася сустрэча чыгуначнікаў і работнікаў авіяцыі

**У першую нядзелю новага 2015 года ў парафіі святога Тадэвуша-апостала ў Лучаі па запрашэнні кс. Мікалая Ліпскага адбылася сустрэча работнікаў чыгункі, авіяцыі і тых, хто карыстаецца іх паслугамі.**

Душпастырства чыгуначнікаў у Беларусі апякуецца некалькімі сотнямі людзей, што працуюць на чыгунцы, і іх сем'ямі. Ідэя заснавання душпастырства нарадзілася ў 1991–1992 гг. у Парэччы, што на Гарадзеншчыне. Многія працаўнікі чыгункі сустракаюцца на малітве ў касцёле, удзельнічаюць у жыцці парафіі. Іх аб'ядноўвае адна сфера дзейнасці, яднаюць аднолькавыя інтарэсы, тэмы. Для чыгуначнікаў рэгулярна праводзяцца фармацыйныя сустрэчы, Эўхарыстыя, якая яднае іх асаблівым чынам.

Таксама яны маюць магчымасць прымаць удзел у пілігрымках не толькі па Беларусі, але і за яе межамі, удзельнічаць у еўрапейскіх сустрэчах чыгуначнікаў. Апекунамі працаўнікоў чыгункі з'яўляюцца св. Андрэй Баболя і св. Кацярына Александрыйская.

Святую Імшу ў інтэнцыі чыгуначнікаў і іх сем'яў правёў айцец Станіслаў з парафіі Маці Божай Ларатанскай у Мінску. Разам з ім нашу парафію наведалі і свецкія ўдзельнікі гэтага душпастырства. У гаміліі святар засяродзіў увагу на працы чыгуначнікаў як на пакліканні да служэння людзям, чэрпаючы сілы з жывой веры.

Пасля літургіі адбылася сустрэча з чыгуначнікамі, на якой маліліся, дзяліліся аплаткам і размаўлялі, як вернікі душпастырства чыгуначнікаў і авіятараў праводзяць сустрэчы і як бавяць вольны час пасля працы.

Айцец Станіслаў запрасіў чыгуначнікаў нашай парафіі прыняць удзел у найбліжэйшым спатканні, якое адбудзецца 18 студзеня ў мікрараёне Сокал у Мінску.

А наступную сустрэчу чыгуначнікаў вырашылі правесці ў нашай парафіі 15 лютага. На заканчэнне спаткання айцец Станіслаў удзяліў усім прысутным блаславенне.



*luchai.by*

# Біскуп Алег Буткевіч удзяліў сакрамант канфірмацыі ў Мёрах

**Яго Эксцэленцыя біскуп Віцебскі Алег Буткевіч удзяліў сакрамант канфірмацыі вернікам Мёрскай парафіі.**

■ **Жанна Закрэўская**



Свята распачалося ўрачыстым уваходам ардынарыя Віцебскай дыяцэзіі ў святыню з удзяленнем пастырскага блаславення. Кандыдаты на прыняцце сакраманту бежмавання сустрэлі біскупа і паднеслі яму хлеб-соль, а таксама сем ружаў як сімвал сямі дароў Духа Святога. У прывітальным слове моладзь прасіла пастыра аб удзяленні ім сакраманту канфірмацыі.

У адказ Яго Эксцэленцыя біскуп Алег Буткевіч звярнуўся да прысутных са словамі ўдзячнасці за дар малітвы, за дар фармацыйнай паслугі. Мёрская парафія была адной з першых у яго святарскай біяграфіі, таму яна з'яўляецца як бы "стартавай пляцоўкай". Біскуп зазначыў, што не толькі святар служыць людзям, людзі таксама з'яўляюцца выхаваўцамі святара.

З асаблівымі словамі ўдзячнасці Яго Эксцэленцыя звярнуўся да ксяндза-пробашча Крыштафа Мянкіны і падзякаваў за час, праведзены пад яго кіраўніцтвам і апекай.

Затым адбылася Святая Імша, якую разам з біскупам канцэлебравалі святары Крыштаф Мянкіна і Валерый Марціноўскі. Сваю гамілію пастыр Віцебскай дыяцэзіі прысвяціў Святой Сям'і. Біскуп Алег правёў паралелі паміж Святой Сям'ёй і сучаснымі сем'ямі. Ён узгадаў пра цяжкасці, якія выпалі на лёс сям'і з Назарэта, і заахвоціў браць прыклад у штодзённым жыцці са Святой Сям'і.



Ардынарый зазначыў, што хоць праблема сучаснай сям'і і дэмаграфіі ў многіх выклікае аскому, але ніколі не будзе зашмат гаварыць пра гэта. Сям'я – інстытут грамадства, менавіта ў сям'і адбываецца фармацыя чалавека, таму якімі будуць нашыя сем'і, такім будзе і грамадства.

Біскуп Алег узгадаў пра адказнасць у падыходзе да стварэння сям'і, пачынаючы з малітвы за будучага сужэнца, знаёмства і падрыхтоўкі да сакраманту шлюбу. Яго Эксцэленцыя звярнуў увагу на абавязак бацькоў перад дзецьмі ў выкананні прысягі, якую яны склалі падчас сакраманту шлюбу. Ардынарый падкрэсліў, што гэта нялёгкая справа, аднак мы маем доказ і прыклад таго, што ўсё магчыма. "Святая Сям'я змагла пераадолець жыццёвыя цяжкасці, таму і мы павінны да гэтага імкнуцца, просячы аб Божай дапамозе і згаджаючыся з Божай воляй. Зразумець Божую волю нам дапамагае Святы Дух. Бог прыйшоў на зямлю, каб дапамагчы, ачысціць, прывесці да вечнага жыцця, таму ўзносьце ўгору сэрцы. Калі мэтай нашага жыцця будзе Божае валадарства, то ўсё іншае мы атрымаем, у гэта толькі трэба паверыць".

Працягам набажэнства стаў сакрамант канфірмацыі, які распачаўся малітвай аб спасланні Духа Святога. Затым біскуп у прысутнасці сведкаў удзяліў сакрамант бежмавання кандыдатам. Падчас Святой Імшы моладзь прынесла да алтара дары.

Напрыканцы набажэнства маладыя вернікі падзякавалі ксяндзу-біскупу Алегу за ўдзелены сакрамант канфірмацыі, а таксама пробашчу, ксяндзу Крыштафу, і вікарыю, ксяндзу Вячаславу, за дапамогу ў падрыхтоўцы да прыняцця сакраманту хрысціянскай сталасці.

Яго Эксцэленцыя ксёндз-біскуп Алег у сваю чаргу падзякаваў усім прысутным вернікам і святарам за супольную малітву, ксяндзу-пробашчу Крыштафу за гасцінны прыём, а парафіяльнаму хору "Fiat" за цудоўны спеў падчас набажэнства.

У другой палове дня ў канцэртнай зале раённай школы мастацтваў адбылося прадстаўленне батлейкі, якое падрыхтавалі дзеці і моладзь. Самадзейныя артысты паказалі дзею, прысвечаную Божаму Нараджэнню.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення Св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю Св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю Св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на Св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 000 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую Св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе Св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на Св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя Св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя Св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена Св. Імша) | |

# Дапамога па аб’яве, або Як растапіць лёд на сэрцы?



„Мой удзел у валанцёрскім руху проста не разумелі. Задавалі пытанні: “А навошта гэта табе? А што ты за гэта атрымаеш?”"

**Многія ведаюць, што Каталіцкі Касцёл актыўна займаецца дабрачыннай дзейнасцю ў парафіях, а таксама з’яўляецца заснавальнікам дабрачынных арганізацый. Аднак дапамагаць людзям у патрэбе можна проста па ўласнай ініцыятыве.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст і фота*

Сёння ў рубрыцы “Інтэрв’ю” госць “Каталіцкага Весніка” – Ірына Шворань, валанцёр дабрачыннага руху ў Наваполацку.

**– Ірына, распавядзіце, калі ласка, пра сябе.**

– Я сама з Глыбокага (Віцебская вобласць) і з’яўляюся каталічкай. Цяпер атрымліваю вышэйшую адукацыю ў Полацкім дзяржаўным універсітэце. Буду юрыстам.

**– Як Вы вырашылі, што павінны займацца валанцёрствам?**

–Я даўно адчувала, што хачу прысвяціць свой час тым, хто ў патрэбе. Аднойчы на аўтобусным прыпынку ўбачыла аб’яву: патрабуюцца добраахвотнікі для дапамогі хворым людзям. І тэлефон. Я патэлефанавала. Мне адказала жанчына-псіхолаг і прапанавала сустрэчу. Так і пачалася мая прыгода ў валанцёрскім руху.

**– Што канкрэтна Вы робіце, каб дапамагчы людзям?**

– У мяне ёсць два падапечныя, якіх я сістэматычна наведваю. Гэта самотная бабуля і хворы на анкалогію хлопчык. У бабулі неабходна прыбраць дома, схадзіць у краму па прадукты і проста пагаварыць, прысвяціць ёй свой час. Яна шчаслівая, што можа камусьці расказаць пра сваё жыццё, пабыць з кімсьці разам. А хлопчыку я стараюся быць сяброўкай. Мы разам глядзім мультфільмы, складаем пазлы і проста размаўляем.

**– Колькі чалавек налічвае Ваш рух, і ці мае ён нейкую афіцыйную назву?**

– Назвы ніякай няма. Мы проста дапамагаем людзям. Усяго нас 9 чалавек. У асноўным гэта студэнты. Але, на жаль, няма сярод нас хлопцаў. Адны дзяўчаты. Аднойчы мы неяк прапаноўвалі нашым сябрам паўдзельнічаць, тым больш што бываюць у нас сумесныя акцыі, аднак марна. Адзін хлопец сказаў, што пакуль не гатовы, маўляў, людская бяда будзе для яго нечым кшталту стрэсу. І адмовіўся.

**– А што гэта за сумесныя акцыі, якія Вы праводзіце?**

– Мы збіраем грошы, купляем падарункі дзецям і едзем у інтэрнат у Ветрына, што ў Полацкім раёне. Там праводзім адмысловае забаўляльнае мерапрыемства з гульнямі і песнямі. Дзеці вельмі шчаслівыя. Але найбольшае шчасце, пэўна, у нас, калі яны абдымаюць, запрашаюць прыйсці яшчэ. Дзіцячая ўсмешка, іх шчырасць і нявінныя вочы – гэта самая вялікая падзяка, якую мы толькі можам атрымаць.

**– А што самае цяжкае ў валанцёрскім руху?**

– Для мяне асабіста вельмі складана эмацыянальна перажываць сустрэчу з дзеткамі. Ці гэта акцыя ў інтэрнаце, ці адрасная дапамога. Я шчыра прызнаюся: бывае, не магу стрымаць слёз. “А калі ты яшчэ да мяне прыйдзеш?” – пытаецца дзяўчынка ў інтэрнаце. “А ў мяне праз тыдзень дзень нараджэння, ты прыйдзеш да мяне?” – пытаецца хлопчык. Гэта так шчымліва. І я разумею, што абмежаваная ў сваіх магчымасцях. Вучоба, не хапае часу. І гэта складана.

**– Ірына, Вы ходзіце ў касцёл з дзяцінства. Вашыя бацькі таксама вернікі. Як Вы думаеце, наколькі рэлігія спрыяе таму, каб чалавек станавіўся больш чалавечным і дапамагаў сваім бліжнім?**

– Ідэалы хрысціянства, несумненна, гавораць нам пра любоў да Бога і да іншага чалавека. Аднак я лічу, што дапамога адно аднаму – гэта заданне кожнага. Тут не мае значэння, вернік ты ці не. Салідарнасць і ўзаемадапамога – гэта агульначалавечыя каштоўнасці.

**– Што б Вы хацелі пажадаць сваім аднагодкам сёння?**

– Мне хочацца, каб людзі пачалі заўважаць сябе. Каб сталі больш добрымі і вучыліся рабіць дабро бескарысна. Быў выпадак, калі мой удзел у валанцёрскім руху проста не разумелі. Задавалі пытанні: “А навошта гэта табе? А што ты за гэта атрымаеш? Табе ж за гэта нічога не заплоцяць”. Хацелася б, каб людзі зразумелі, што не ўсё вымяраецца грашыма. Ёсць бясцэнныя рэчы ў свеце, такія, як любоў, сяброўства і бескарысная дапамога.

***

Калі мы развіталіся з Ірынай пасля інтэрв’ю, на вуліцы дзьмуў пранізлівы марозны вецер. Мне падумалася, што сучаснаму свету пагражае зіма і халадэча, калі ён не ўспомніць пра запавет любові. І дзякуй Богу, што сярод нас ёсць гарачыя, добрыя сэрцы, якія ўмеюць любіць і растопліваюць лёд, праганяючы сцюжу і абыякавасць з жыцця людзей.

## Песняй славім Бога

**Напрыканцы 2014 года ў нашай парафіі адбыўся конкурс калядnай песні.**

■ **Аліцыя Трафімовіч**



Ініцыятарам і арганізатарам стаў наш пробашч, ксёндз-дзекан Анджэй Возьняк. У конкурсе прынялі ўдзел не толькі дзеткі з нашай парафіі, але і запрошаныя з Варапаева і Лынтупаў. Узрост удзельнікаў, якія былі падзелены на тры групы, самы розны: ад 7 да 16 гадоў. У конкурсе таксама прымала ўдзел прадстаўніца пратэстанцкай царквы Ірына Лашук, якая стала лаўрэатам.

Увогуле імпрэза прайшла на вельмі высокім узроўні. Вялікую падрыхтоўчую працу з дзецьмі правялі Вольга Касарэўская, Вольга Кватарчук, Ядвіга Сівіцкая, за што ім шчыры дзякуй. Дзеткі з захапленнем спявалі “калядкі”, а перапоўненая зала падтрымлівала выканаўцаў дружнымі апладысментамі. Песні гучалі як на беларускай, так і на рускай, польскай і нават англійскай мовах.

Журы было няпроста вызначыць пераможцаў, бо ўсе дзеці спявалі па-майстэрску таленавіта і хораша. Кожны ўдзельнік быў узнагароджаны дыпломамі і падарункамі, а пераможцы атрымалі з рук пробашча яшчэ і гітары.

На конкурсе ў Мёрах нашы артысты занялі пачэснае трэцяе месца, з чым іх і віншуем!

# Як пазбавіцца ад алкагольнай залежнасці?

**У Беларусі многія людзі, у тым ліку і вернікі, перажываюць залежнасць ад алкаголю. Якім чынам ім можна дапамагчы пераадолець гэтую хваробу, вырашыў даведацца "Каталіцкі Веснік".**

*Ірына Грэйць*



**Міхаіл Сяргеенка:**
– На жаль, праблема алкагольнай залежнасці ў нашай краіне вельмі актуальная. Чалавек імкнецца запоўніць пустэчу сэрца не Божай ласкай, а чымсьці іншым. Часта гэта алкаголь і далей – залежнасць. Я ўпэўнены, што такая хвароба ў першую чаргу з'яўляецца духоўнай і душэўнай. Як хрысціянін я разумею, што такую праблему цяжка вырашыць самому. Трэба зразумець, что Госпад хоча і можа дапамагчы. У Бібліі напісана: "Але Ён узяў на Сябе нашыя немачы і забраў нашыя хваробы…" (Ісая 53, 4). Езусужо праліў Сваю Кроў за нашыя немачы, Ён заўсёды працягвае руку тым, хто патрабуе дапамогі. Патрэбна патлумачыць чалавеку, што алкаголь не вырашыць праблем на працы, у сям'і, не верне родных, не выратуе ад адзіноты. Трэба звярнуцца да Бога па дапамогу. Шмат таксама залежыць ад нашай волі. Калі ў чалавека няма імкнення выправіцца, то дапамагчы будзе складана.

Хацелася б звярнуцца да сем'яў і сяброў тых людзей, якія пакутуюць ад алкагольнай залежнасці. Калі вы пачнеце маліцца за гэтага чалавека і калі ён сам пачне старацца, то я ўпэўнены, што атрымаецца вылечыцца. Важна таксама, каб работа па прафілактыцы алкагольнай залежнасці праходзіла не толькі ў Касцёле і дзяржаўных структурах, але і ў сям'і. Важна пасеяць здаровае зерне з дзяцінства. Гэтым зернем з'яўляецца вера ў Хрыста. Мы жывём у свеце, які папулярызуе алкаголь. Калі кожны хрысціянін пачне штосьці рабіць, каб паказаць прыгажосць веры, а не віна ў келіху, то Госпад дабраславіць нас і дапаможа пераадолець розныя цяжкасці.



**Сяргей Панамароў:**
– Людзям, якія знаходзяцца ў алкагольнай залежнасці, можна дапамагчы вырашыць гэтую праблему па-рознаму. Супольна малітва з гэтым чалавекам у інтэнцыі, каб Езус дапамог верніку вызваліцца ад залежнасці. Папярэдне важна паразмаўляць з чалавекам, паспрабаваць пераканаць яго ў тым, што калі брат ці сястра шчыра давераць сваю праблему Богу, то гэтая просьба будзе пачутая і выкананая.



**Вольга Ігнатовіч:**
– У цяперашні час залежнасць ад алкагалізму – адна з найважнейшых праблем. Усё пачынаецца з сям'і. Яна – падмурак усіх адносінаў. Зараз многія бацькі заклапочаны паляпшэннем матэрыяльнага дабрабыту і пакідаюць сваіх дзяцей без патрэбнай увагі і выхавання. Вырасла колькасць жанчын, што пакутуюць ад алкагольнай залежнасці. У сем'ях назіраецца недахоп веры. Кожны чалавек, я лічу, павінен прызнаць, што ён хворы, а гэта здараецца вельмі рэдка. Зараз існуе шмат розных груп АА (ананімных алкаголікаў), рознаўзроставых, для мужчын і жанчын. Іх праграма па пераадоленні залежнасці мае вялікі ўплыў. Так гавораць тыя, хто меў залежнасць на працягу многіх гадоў і пазбавіўся ад яе. Трэба выпускаць больш сацыяльных ролікаў, прысвечаных гэтай праблеме, праводзіць больш мерапрыемстваў у школах і іншых установах адукацыі. Тыя, хто пазбавіўся ад залежнасці, павінны даваць больш сведчанняў.



**Вольга Красільшчыкава:**
– Самае галоўнае, за такіх людзей трэба шмат маліцца. Людзі, якія пакутуюць ад алкагольнай залежнасці, павінны адчуць, што іх любяць. Ім неабходна адчуваць, што блізкія клапоцяцца пра іх і разумеюць, што яны патрэбныя камусьці. Важна разгледзець прычыны ўзнікнення хваробы. Чаму чалавек пачаў ужываць алкаголь? Можа, яму не хапала падтрымкі? Можа, ён адчуў сябе непатрэбным? Гледзячы на людзей, якія вакол мяне, магу сказаць, што ніякія ўрачы і кадзіроўкі не дапамогуць чалавеку. Яны не вырашаць праблему, а толькі адцягнуць яе развязанне. Сёння дзейнічае Асацыяцыя ананімных алкаголікаў, дзе чалавек можа адкрыцца, даверыцца і ўбачыць, што ёсць людзі з такой жа праблемай. Важна, каб чалавек прызнаў, што праблема ў яго ёсць. Сям'я, паразуменне, любоў, малітва і давер да Бога, цярплівасць – вось лекі ад гэтай хваробы.



**Аляксандр Ніканчук:**
– Як дарадчык сямейнага жыцця магу сказаць, што дапамагчы ім можна. І патрэбна дапамога не толькі ім, але і блізкім асобам. Пры некаторых парафіях ёсць сямейныя кансультацыі, дзе падрыхтаваныя спецыялісты дапамагаюць такім людзям. Сюды звярнуцца могуць не толькі тыя, хто церпіць ад залежнасці, але і тыя, хто жыве побач. Акрамя кансультацый, ёсць суполкі ананімных алкаголікаў. Там сустракаюцца людзі, якія церпяць ад залежнасці, і тыя, хто вырваўся з гэтых путаў. Ёсць адмысловая праграма, паводле якой яны працуюць. Для тых, хто зацікаўлены і патрабуе дапамогі, мой электронны адрас: nikonczuk@gmail.com

## Вынікі анлайн-апытання на сайце Catholicnews.by і ў сацыяльных сетках

**У Беларусі многія людзі, у тым ліку і вернікі, перажываюць залежнасць ад алкаголю. Якім чынам, на Вашу думку, можна ім дапамагчы пераадолець гэтую хваробу?**

- Трэба падымаць узровень жыцця людзей, бо многія п'юць праз бесперспектыўную будучыню – 34 галасы;
- Неабходна больш маліцца за гэтых людзей і ахвяраваць пост – 35 галасоў;
- Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на выхаванне дзяцей і моладзі – 31 голас;
- Заканадаўства ў плане захавання цвярозага ладу жыцця павінна быць больш строгім – 10 галасоў;
- Трэба, каб кошты на алкагольныя напоі былі яшчэ больш высокімі – 10 галасоў.
- Ваш адказ у каментарыях – 1 голас



**Усяго прагаласаваў 121 чалавек**

## Хвала Хрысту!

*З пачуццём глыбокай павагі і любові ад усіх парафіян касцёла імя Найсвяцейшай Панны Марыі дасылаю віншаванне* ***ксяндзу Генадзю Рэйшэлю*** *з нагоды Дня Анёла 19 студзеня.*

*І надалей:*
*Будзь промнем у цемры,*
*Для слабых –уцехай,*
*Сей радасць, дзе смутак,*
*У адчаі – надзею.*

*Ад Маці Божай – апеку,*
*Ад Хрыста – цярпенне,*
*Ад парафіян – пашану,*
*Ад Бога – натхненне!*



***Л. Малей**, в. Параф'янава*

## Поздравляем!

*Сердечно поздравляю со светлым праздником Рождества Христова* ***ксендза Яцека Хутмана****, который служит в комайском костёле Поставского района. Искренний проповедник Божьего слова, добра, правды, он очень много сделал не только для укрепления веры в людях, но и для обновления костёла, реставрации его фресок, благоустройства прилегающей к костёлу территории.*

*А какую огромную работу кс. Яцек провёл по окультуриванию кладбищ! Уже несколько кладбищ в приходе изменились до неузнаваемости: очищены от деревьев, обкошена трава, поставлены новые современные ограды. Меня до глубины души взволновало изменение кладбища в д. Иодовцы, где покоится мой отец. Сердечное спасибо и низкий поклон кс. Яцеку!*

*Желаю ему крепкого здоровья на долгие годы, много сил, бодрости для служения Господу Богу. Пусть любовь Иисуса Христа поддерживает кс. Яцека, а Матерь Божья оберегает его!*

***С глубоким уважением,***
***Ромуальда Зайцева (Русак) и её семья***
*(г. Новополоцк)*



Параф'янава

# Батлейка



**У Параф'янаўскім Доме культуры з вялікім поспехам прайшла батлейка. У ёй выступілі дзеці з Параф'янаўскай парафіі імя Найсвяцейшай Дзевы Марыі.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Да імпрэзы дзеці рыхтаваліся ад пачатку Адвэнту. Ім дапамагалі законныя сёстры, бацькі і настаўнікі. Пры гэтым у пастаноўцы маглі ўзяць удзел усе ахвотныя, нягледзячы на свае артыстычныя здольнасці.

Сястра Марына Яскевіч кажа: "Я калі рыхтую сцэнкі, то бяру ўсіх дзяцей. Мне не важна, маюць яны акцёрскія здольнасці або не. Галоўнае, каб яны змаглі выйсці на сцэну, выступіць перад бацькамі. Яны тады такія радасныя".

Адной з вядоўцаў на імпрэзе была Аксана Ючкавіч, якая нарадзілася і вырасла ў Параф'янаве. Цяпер яна жыве і працуе ў Мінску, але не парывае сувязяў са сваёй сям'ёй і парафіяй, якую таксама можна назваць вялікай сям'ёй. Асабліва ў Параф'янаве!

"Я сама родам з гэтай парафіі. Сёння мяне запрасілі на ролю вядоўцы. Калісьці, малой дзяўчынкай, я таксама ўдзельнічала ў батлейцы, была пастушком, гэта была мая любімая роля. Потым дарасла да анёла, а ў 11 класе сыграла нават Маці Божую. Ну а зараз я ўжо толькі вядоўца".

Дзеці падрыхтавалі дзве сцэнкі: адна з іх была традыцыйнай батлейкай, а другая паказвала свята Божага Нараджэння ў 3000-ым годзе.

У першай сцэнцы дзеці паказалі, як з'яўленне маленькага Анёла падчас калядных святаў змяняла сітуацыю да лепшага ў розных жыццёвых сітуацыях: гандлярка станавілася чэснай і не хацела прадаваць тухлую рыбу, бацька згаджаўся аддаць дачку за хлопца, якога яна кахала, муж-п'яніца станавіўся на шлях выпраўлення, паляўнічы пашкадаваў забіваць зайца...

У другой сцэнцы дзеці паказалі свята Божага Нараджэння праз тысячу гадоў. Падзеі адбываюцца ў Афрыцы, якая стала за гэты час перадавым кантынентам. Настолькі перадавым, што людзі забыліся на Бога, яны смяюцца з Заходняй Еўропы, якая ў іх вачах выглядае адсталай. Але якраз там людзі яшчэ не забыліся на Бога, там можна яшчэ знайсці Біблію. І ў рэшце Божае слова перамагае, афрыканцы разумеюць, што без Божага слова сэрца чалавека пустое і наогул няма сэнсу ў чалавечым жыцці.

Мяркуючы па рэакцыі гледачоў, выступленне ім вельмі спадабалася. Ды і самім акцёрам таксама.

Не забыліся ў святочнай праграме і пра дарослых. Для іх таксама былі падрыхтаваны конкурсы і загадкі. Трэбы было асвяжыць свае веды пра Святое Пісанне, узгадаць, якія калядныя спевы яны ведаюць, успомніць калядныя песні сваіх продкаў. Апладысментамі гледачы сустрэлі выступ адной са сваіх парафіянак, якая не толькі ўзгадала старую калядку, але і праспявала яе на польскай мове. Шмат хто з прысутных гэты спеў падхапіў.

Ну а потым ўсіх завёў брат Войтэк з Докшыц, які запрасіў артыстаў на сцэну на супольны танец. Дарэчы, на танец запрашалі і дарослых. Было вельмі прыемна глядзець на радасных і шчаслівых дзяцей, якія танчылі на сцэне разам з сёстрамі і, вядома ж, з братам Войтэкам.

Але і на гэтым святочная праграма яшчэ не скончылася. Свята працягнулася ў фае Дома культуры, дзе разам танцавалі і дзеці, і моладзь, і дарослыя. Не адставалі ад іх і брат Войтэк з сёстрамі. Было відаць, што свята ў Параф'янаве ўдалося.

Адзін з гледачоў, Ян Вярэнька, прыехаў на свята з Докшыц і прывёз з сабой дзяцей з суседняй парафіі. Ён кажа: "Выхаванне залежыць ад дзіцячага ўзросту: як дзіця выхаваеш, так яно і вырасце. Калі з дзяцінства яму прывіць любоў да Бога, то дзіця будзе і нада-



# ў Параф'янаве

лей жыць паводле Божых наказаў. Бо ўжо ў дарослым узросце Богу і касцёлу будзе цяжэй даклікацца да яго сэрца".

А падобныя святы якраз і спрыяюць такому выхаванню. Выступам дзяцей застаўся задаволены і пробашч парафіі ў Параф'янаве ксёндз Раман Мурзіч: "Для мяне асабліва радасна, што ўся парафія жыве святам Божага Нараджэння, бо гэта радасць у сям'і, радасць у парафіі. Кожны ўдзельнічаў у сённяшнім свяце, нават малыя дзеці чыталі вершы з такім захапленнем! І дарослыя таксама ўдзельнічалі. Няхай гэтае свята Божага Нараджэння будзе для кожнага супакоем і радасцю і надалей!"

Што ж, да гэтых словаў цяжка штосьці дадаць. Трэба адзначыць што параф'янаўскія артысты ўдала выступілііўВіцебску 9 студзеня.







# Как дать хорошее религиозное воспитание ребёнку?

## Советы психолога

**Нет, кажется, более важного и жизненного вопроса, чем о воспитании ребенка. Сегодня в быстро развивающимся современном обществе родители больше заботятся о том, чтобы их ребенок был целеустремленным, независимым, успешным и умным. И совсем мало внимания уделяют такой составляющей, как религиозное воспитание. Причиной этого может быть и то, что сами родители воспитывались в атеистическую эпоху развития нашего государства.**

■ **Марина Ткач,** *социальный педагог, психолог*



Поэтому наш с Вами сегодняшний разговор пойдет о трудном, но в то же время актуальном вопросе религиозного воспитания и его влиянии на становление и развитие личности ребенка.

Для начала давайте определим, что такое «воспитание» и «религиозное воспитание».

***Воспитание*** – систематическое воздействие, направленное на формирование личности с целью подготовки к общественной и культурной жизни в соответствии с социокультурными нормами и правилами поведения.

***Религиозное воспитание*** – планомерный процесс формирования определенного мировоззрения, мироощущения и поведения, соответствующих догматам и вероучительным принципам того или иного вероисповедания.

### С чего начать?

У Вас может возникнуть разумный вопрос: «С чего начать религиозное воспитание?» Я отвечу Вам одной английской пословицей: «*Не воспитывайте детей, все равно они будут похожи на Вас. Воспитывайте себя...*»

И в этом есть своя правда, ведь дети рождаются не только для того, чтобы мы их воспитывали, но и для того, чтобы они воспитывали нас. Ни для кого не секрет, что семья – это ячейка общества, в которой закладывается основа для развития личности.

В религиозном воспитании ребенка семья также занимает исключительное место, так как она является для него главным проводником религиозных чувств. Мы глубоко заблуждаемся, когда думаем, что, записав ребенка в воскресную школу или отправив его в храм, приложим этим самым достаточно усилий для его религиозного развития. Священник или монахиня, рассказывающие о Боге, не смогут заменить семейную молитву, совместный поход в храм, чтение Библии и духовной литературы. И об этом нужно помнить.

Давайте теперь поговорим

> **“ Не воспитывайте детей, все равно они будут похожи на Вас. Воспитывайте себя... ”**

о влиянии религиозного воспитания на развитие и дальнейшее становление личности. Мы готовим детей для жизни, а не для какой-то искусственной, оранжерейной обстановки. Поэтому важно в процессе религиозного воспитания закладывать не только веру в Бога и иные религиозные представления, но и формировать социально одобряемые нормы и правила поведения, а также такие качества личности, как честность, порядочность, милосердие, сострадание, сопереживание, принятие других людей и т.д.

### Когда нормы и правила становятся частью личности...

Многие из Вас могут возразить, сказав, что вышеперечисленные качества формируются не только в рамках религиозного воспитания. И я с этим соглашусь. Вы абсолютно правы. Но все эти качества в религиозном воспитании развиваются более глубоко, в свете веры, добра и становятся доминирующими в развитии ребенка.

В период взросления эти доминирующие качества проходят процесс интериоризации. *Интериоризация (от лат. interior – внутренний)* – формирование внутренней структуры психики благодаря усвоению внешней социальной деятельности. Это процесс, когда внешние нормы и правила поведения становятся частью личности, внутренней потребностью поступать так, а не иначе.

В дальнейшем качества, прошедшие процесс интериоризации, складываются или составляют определенную систему ценностных ориентаций. Чтобы было понятнее, *ценностные ориентации* – это отраженные в сознании человека стратегические жизненные цели и ориентиры. Данная система – это своеобразный стержень, основа дальнейшего поведения и деятельности, которые будут комфортны для личности.

### Религия влияет на личностное благополучие

Стоит отметить, что позитивное влияние религии на фактор личностного благополучия было подтверждено в исследованиях Эллисона (C. Ellison). Результаты данного исследования показали, что индивидуумы с глубокой и сильной верой отличаются высокой степенью жизненной удовлетворенности, личностного счастья и низким уровнем последствий после травмирующих жизненных ситуаций.

Как видим, религиозное воспитание имеет огромное значение для развития лич-

> **“ Священник или монахиня, рассказывающие о Боге, не смогут заменить семейную молитву, совместный поход в храм, чтение Библии и духовной литературы ”**

ности. Оно проявляется не в простом рассказе ребенку о Боге, не в том, чтобы научить его молитве или тому, как правильно вести себя в храме (хотя я хочу подчеркнуть, что это тоже важно!). Это еще значит, что мы должны сформировать в нем качества, мировоззрение и способы поведения, которые в дальнейшем будут основой его жизни в обществе.

Конечно, в жизни не всегда все проходит так хорошо и безоблачно, как написано здесь. Но как говорится: «Дорогу осилит идущий...»

Хочется сказать, что религиозное воспитание – это процесс, в котором ребенка нельзя заставить, убедить в чем-то или навязать силой свои взгляды и поведение. Все должно проходить добровольно, в любви, согласии и доверии между взрослыми и ребенком. Это совместный процесс, где взрослые и дети должны быть активными участниками, а не пассивными наблюдателями со стороны.

Мне всегда приятно видеть те семьи, которые все вместе приходят в храм в воскресенье. Когда родители не отправляют туда детей одних, а сами продолжают заниматься своими делами.

Помните, что дети всегда копируют поведение взрослых. Поэтому будьте для них хорошим примером во всем и везде.

И в заключении мне хочется пожелать Вам успехов в религиозном воспитании ваших детей!

## Шлях у Баварыю

**Вернікі з Шаркаўшчынскага і Пастаўскага раёнаў пабывалі ў пілігрымцы “Шлях у Баварыю”.**

■ **Кацярына Сосна**

Арганізатарам быў ксёндз-пробашч Лучайскай парафіі Мікалай Ліпскі, а экскурсаводам – Алена Клімза. Мэта паездкі – паглядзець знакамітыя мясціны Чэхіі, у прыватнасці, Прагу, Германіі (Рэгенсбург і Мюнхен), Польшчы – горад Вроцлаў.

Першым гасцінна сустрэў нас якраз Вроцлаў. Яго параўноўваюць з Венецыяй, а раку Одэр называюць кветкай Еўропы. У касцёле святой Альжбеты ксёндз Мікалай разам з удзельнікамі пілігрымкі ўдзельнічалі на Імшы.

Наступным месцам нашага прыпынку стала Прага. Шэдэўр, які сімвалізуе горад, – касцёл святога Віта. Горад ганарыцца сваім астранамічным механічным гадзіннікам з рознымі фігуркамі святых, якія ў пэўны час выконваюць розныя рытуалы.

Далейшы шлях удзельнікаў пілігрымкі ляжаў у Нямеччыну. Адным з удзельнікаў нашай вандроўкі быў артыст Дзмітрый Корсак. Змаглі бліжэй з ім пазнаёміцца. Ён даў інструментальны канцэрт (акардэон) “Мелодыі свету над Дунаем” у Рэгенсбургу. На канцэрце было шмат мясцовых жыхароў, таксама прысутнічалі генеральны консул Беларусі ў Германіі і прадстаўнік баварска-рускага культурнага таварыства Рэгенсбурга.

Не менш цікавым было наведванне і Мюнхена. У гэтым горадзе ўсё прысвечана заступніцы Марыі. На плошчы з аднайменнай назвай узвышаецца касцёл. Шмат чым захапляе Мюнхен, але больш за ўсё ўразіла казачная краіна Баварскага караля Людвіга Другога.

Ад імя ўсіх пілігрымаў хочацца падзякаваць кс. Мікалаю за такую цудоўную магчымасць пабачыць свет.

# Крест и медальон св. Бенедикта



**Бенедикт Нурсийский родился ок. 480 г. в Нурсии (совр. Норча), Италия. Умер 21 марта 547 г. в Монтекассино, Италия. Является родоначальником западного монашеского движения Святой католической и православной церквей. В православной традиции считается преподобным. Автор «устава св. Бенедикта» — важнейшего из монашеских уставов латинской традиции.**

Медальон св. Бенедикта, именуемый также Крестом св. Бенедикта, относится к числу самых древнейших в Католической Церкви предметов частного почитания. Св. Бенедикт любил особенным образом молиться ко Кресту Христову. Он часто благословлял святым Крестом, творя при этом многие чудеса.

В 1647 г. в баварском аббатстве Меттен была найдена рукопись с изображением св. Бенедикта. В правой руке святой держит посох с крестом, на посохе видна надпись: „Crux Sancti Patris Benedicti. Crux Sancta Sit Mihi Lux". В левой руке святого – свиток с надписью: „Vade Retro Satana, Non Suade Mihi Vana. Non Draco Sit Mixi Dux".

С тех пор медальоны св. Бенедикта приобрели следующий вид: на лицевой стороне изображен святой патриарх Бенедикт, держащий в правой руке крест, а в левой – книгу, Святое Правило, ведущее всех, соблюдающих его, через Крест к Вечному Свету.

***Crux Sancta Sit Mihi Lux***
***Non Draco Sit Mixi Dux***
***Vade Retro Satana***
***Non Suade Mihi Vana***
***Sunt Mala Quae Libas***
***Ipse Venena Bibas***

*Светит мне пусть Крест Святой,*
*Древний змий да сгинет злой.*
*Сатана пускай отыдет,*
*Суета в меня — не внидет.*
*Злом меня да не искусит,*
*Чашу яда сам да вкусит.*

На оборотной стороне медальона помещается большой Крест, а на нем – соответствующим образом расположенные буквы: начальные буквы латинских слов, раскрывающих значение самого медальона.

**Итак, в четырех полях, разделенных знаком Креста, помещены следующие литеры:**

C S P B (Crux Sancti Patris Benedicti – Крест святого отца Бенедикта)

На вертикальном основании Креста, сверху вниз, расположены буквы:

C S S M L (Crux Sancta Sit Mihi Lux – Светит мне пусть Крест Святой).

**На перпендикулярной основанию перекладине:**

N D S M D (Non Draco Sit Mixi Dux – Древний змий да сгинет злой).

**Вокруг Креста расположены буквы:**

V R S N S M V (Vade Retro Satana, Non Suade Mihi Vana – Сатана пускай отыдет, суета в меня не внидет).

S M Q L I V B (Sunt Mala Quae Libas Ipse Venena Bibas – Злом меня да не искусит, чашу яда сам да вкусит).

В 1747 г. папа Бенедикт XIV утвердил вышеописанный вид медальона и составил специально по этому случаю особую молитву посвящения, а также связал с ношением медальона многочисленные индульгенции.

Акт Церкви, изданный в Риме в 1857 г., гласил: «Несомненно то, что посредством сего медальона обретаются многие благодати Божии».

В 1880 г. был отчеканен юбилейный медальон по случаю 1400-ой годовщины рождения св. Бенедикта. На нем были помещены дополнительные символы. Если прежде над знаком Св. Креста помещали надпись IHS (имя Иисусово), то с этого времени она была заменена на слово PAX (мир), служащие бенедиктинским девизом и, одновременно одной из первых монограмм имени Христа. ХР – первые буквы греческого слова ХРІСТОС (Христос), Помазанник. Юбилейный медальон был дополнен надписью над изображением святого:EX S.M. Casino 1880 (Со святой горы Касино 1880) и словами вокруг: EIUS IN OBITU NRO PRAESENTIA MUNIAMUR („Его присутствием да укрепимся при смерти нашей").

Посредством благочестивого употребления медальона св. Бенедикта за многие века его существования немалое число верных обрело дары благодати, необходимые душе и телу. В особенности он помогал уберечься от болезней, отравления ядом, и хранил во всех опасностях.

Чтобы посредством медальона обрести многие благодати и индульгенции, его надлежит освятить и носить при себе. Впрочем, можно укреплять его и там, где мы всего более опасаемся сил тьмы, например, на дверях наших домов, в комнатах, в автомобилях. Эти медальоны имеют особую силу, противостоят нечистым духам.

Уже само по себе целование медальона, соответственное к нему отношение и призывание помощи св. Бенедикта достаточны для обретения различных благодатей. При этом, следует время от времени творить молитву от охраняющую нас от искусов лукавого.

Действенность медальона св. Бенедикта многократно подтверждалась в истории Церкви чудесами и благодатными дарами, обретенными предстательством святого. Подводя итог, можно утверждать, что верные обычно обретали эти благодатные дары в тех случаях, когда требовалось:

1. Сокрушить суеверия и дела дьявола.
2. Уберечься от искушений, изгнать нечистого духа.
3. Обезопасить себя от яда, подаваемого человеческой злобой.
4. Спастись от всякого рода эпидемий.
5. Обрести помощь в различных недугах.
6. Избегнуть удара молнии при грозе.
7. Соблюсти целомудрие и превозмочь искушения.
8. Обрести утешение в страданиях, и особенно — в смертный час.

Медальон св. Бенедикта следует







носить с собой, лучше всего на шее. Во время эпидемий его укрепляют на стенах и дверях домов. При падеже скота его помещают на стенах хлевов, конюшен и скотников, в которых содержатся домашние животные. При строительстве домов, церквей и пр., медальон кладут в основание постройки. Чтобы противостоять краже или повреждению урожая, медальон закапывают на поле. В тех хозяйствах, где есть колодец, медальон бросают в воду.

**Молитва св. Бенедикта о ниспослании благой кончины:**

*Боже, множество даров пославший св. Бенедикту при славной его кончине, сподоби и нас, грешных, сих благодатей, дабы он сам присутствовал при смерти нашей и избавил нас от козней дьявольских. Через Христа, Господа нашего. Аминь.*





# Ці з’яўляецца грахом жыццё без сакраманту шлюбу?



***“Хвала Хрысту! Ці з’яўляецца грахом жыццё без сакраманту шлюбу? Мы не хочам браць шлюб для “галачкі”, таму планавалі яго на лета. А цяпер не хочацца па дзвюх прычынах. Першая – смерць маці, на той час яшчэ жаніха. А другая – недастатковая падрыхтаванасць мужа. Да нашай сустрэчы ён не хадзіў у касцёл, хоць і быў ахрышчаны. Жыць без Святой Камуніі і споведзі аказалася вельмі цяжка. Няўжо давядзецца яшчэ чакаць?”***

*Марыя*

**На пытанне адказвае кс. Валерый Марціноўскі:**

– Жыццё разам, як муж і жонка, з'яўляецца грахом. *“Сужэнскі саюз паміж ахрышчанымі, праз які мужчына і жанчына ствараюць паміж сабой супольнасць на ўсё жыццё і які па сваёй прыродзе скіраваны на дабро мужа і жонкі, а таксама на нараджэнне і выхаванне патомства, узнесены Хрыстом да годнасці сакраманту. Такім чынам, паміж ахрышчанымі не можа быць сапраўднай шлюбнай дамовы, акрамя сакраманту”* (Кодэкс кананічнага права, кан.1055).

*“Мы не хочам для галачкі...”*

Гэта вельмі добра, што вы ставіцеся да свайго будучага сужэнскага жыцця сур'ёзна. Аднак, на жаль, гэта толькі словы з вашага боку, бо пачаткам вашага супольнага жыцця з'яўляецца грэх, а не цнота. Грэх, які чалавек хоча заўсёды апраўдаць, бо думае, што сам сябе ад яго збавіць: вось прыйдзе лета, вось суцішыцца боль жаніха, вось мой нарачоны ўрэшце падрыхтуецца... А пакуль што няхай будзе грэх, няхай ён уваходзіць у нашыя адносіны, у нашыя планы, у нашую штодзённасць і святы. Няхай ён у нас расце, а не Божая ласка...

Дарагія, толькі Хрыстос можа збавіць ад граху і жадання ў ім жыць. Але з нашага боку таксама неабходныя высілкі – дазволіць Богу быць між намі. У чым тут справа? У пачатку “Кнігі Быцця” апісваецца грэхападзенне чалавека. Яно заключаецца ў непаслухмянасці Богу. І калі чалавек першы раз пераступіў Божае права, то ў адносіны з Богам увайшоў цень сумнення: а можа, Бог хоча зла для мяне, Ён мяне не разумее, Ён такі суровы... І тады адносіны “я-Ты”ператварыліся ў “я-Ён”. Далёкім стаў Бог, далёкім стала маё разуменне Яго. Адным словам – падзел, адыход.

Справа граху таксама выглядае так у адносінах між людзьмі. Зірніце вакол на нашыя сем'і. Тая сям'я будзе Божай, дзе ёсць змаганне за цноту і змаганне супраць: не супраць чалавека, а супраць граху. А там, дзе змагання няма, дзе толькі апраўданні, расце грахоўнае балота, якое забівае радасць і смак жыцця ў Божай ласцы. Таму заахвочваю аўтара гэтага пытання быць адважнай, паспрабаваць змяніць жыццё на чаканне сужэнства, а г. зн. жыць асобна, захоўваць чысціню, шчыра маліцца аб навяртанні для сябе і будучага сужэнца, спавядацца, прымаць камунію. І тады, дарагія, калі будзеце жыць у бласлаўленні, а не ў грахоўным праклёне, вы маеце права стаць удзельнікамі сапраўднай любові.

Таму жыццё разам без сакрамантальнага шлюбу, як муж і жонка, з'яўляецца грахом.

# Насіць рэчы з беларускім арнаментам – грэх?

***“Хвала Хрысту! Сёння сярод беларусаў стала модным насіць адзенне, розныя ўпрыгожанні (завушніцы, бранзалеты) з нацыянальнай сімволікай, то бок, з арнаментам. Зразумела, што арнамент – гэта тое, што прыйшло да нас з язычніцтва. Дык атрымліваецца, што насіць любую рэч з арнаментам – гэта грэх, бо арнамент – гэта язычніцкія сімвалы? Але ж гэта наша гісторыя. Ды і на сцягу Рэспублікі Беларусь ёсць арнамент. Патлумачце гэту сітуацыю, калі ласка”.***

*Вікторыя*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– Рэчы з арнаментам не маюць у сабе нічога дрэннага. Сімволіка арнаменту застаецца сімволікай. Любая рэч, знак, сімвал не маюць нейкага асобнага значэння ў прыродзе па-за іх успрыманнем чалавекам і не аказваюць уплыву на стан рэчаў і ход жыцця. Тое, што мае ўплыў на нас, – гэта нашае асабістае ўспрыманне. Калі чалавек надае пэўным рэчам, сімвалам магічнае або антыхрысціянскае значэнне, гэта з'яўляецца грахом. Калі ж арнамент і іншыя сімвалы носяцца як упрыгожанні, у гэтым няма нічога страшнага.



Аднак да гэтага трэба падыходзіць кемліва і зважаць на тое, якое значэнне маюць канкрэтныя сімвалы. Народныя арнаменты суправаджалі ўсе бакі жыцця чалавека – як добрыя і радасныя, так дрэнныя і сумныя. Безумоўна, можна абіраць на свой густ тое, што падабаецца, але гэта не павінна быць свядомай дэманстрацыяй ці прапагандай культуры цемры і смерці, калі чалавек мэтанакіравана падбірае для сябе арнаменты з негатыўнай сімволікай або надае ім магічнае значэнне (напр., як абярэгі, чараўніцтва і пад.).

Таму грахом выкарыстанне арнаментаў будзе толькі ў тым выпадку, калі праз іх чалавек намагаецца адрасаваць навакольным пэўнае негатыўнае пасланне або надае ім магічнае значэнне.

# Да пытання пра ўжыванне слоў “АДМЫСЛОВЫ”, “АДМЫСЛОВА”, “АДМЫСЛОВЕЦ”

■ **Юрась Бабіч,** *кандыдат філалагічных навук*

Сярод вялікай групы адметных беларускіх слоў, якія часта ўжываюцца сапраўднымі знаўцамі мовы, ёсць прыметнік *адмысловы*, назоўнік *адмысловец* і прыслоўе *адмыслова*. “Тлумачальны слоўнік беларускай мовы” трактуе прыметнік *адмысловы* як “своеасаблівы, адметны, непаўторны, цудоўны, выдатны” (Мінск, 1977, Т. 1, с. 155). У залежнасці ад сэнсу выказвання праз гэтае слова можа быць перададзена любое з названых значэнняў або ўсе значэнні адначасова. Прычым ужываецца прыгожы беларускі прыметнік і ў мастацкіх тэкстах, у тым ліку і класічных, і ў публіцыстычным стылі, і ў вусным маўленні. Прыгадаем прыклады з літаратуры: *Палескае неба мае свае* ***адмысловыя*** *найтанчэйшыя адценні* (Кузьма Чорны); *Рыбак быў дзядзька наш Антоні, / Як і работнік,* ***адмысловы*** (Якуб Колас). Калі ў першым кантэксце перадаецца значэнне “своеасаблівыя, адметныя”, то ў другім – “цудоўны, выдатны”. Паглядзім на наступныя жыццесцвярджальныя радкі, дзе прыметнік *адмысловы* адыгрывае, бадай, ключавую ролю:

*І вяртаюцца смелыя мроі,*
*Каб разбавіць халодную кроў.*
***Адмысловыя*** *маю напоі,*
*Дураслівых збіраю сяброў.*

Тут адлюстравана значэнне “вытанчаныя, далікатныя”. Насамрэч прыгожа па-беларуску гучаць фразы кшталту *Я маю* ***адмысловыя*** *цукеркі; Я п’ю толькі* ***адмысловую*** *каву ці* ***гарбату****.* Увогуле асаблівай папулярнасцю карыстаецца спалучэнне ***адмысловыя*** *напоі*. Калі нехта кажа: *Я ўжываю толькі* ***адмысловыя*** *стравы і напоі*, то ён міжволі характарызуе сябе як чалавека інтэлігентнага, адукаванага, які падсвядома выклікае давер і павагу.

Прыгожае беларускае слова традыцыйна выкарыстоўваецца на старонках друку: *Яшчэ адно, што ўражвае мяне па ўсходні бок фінскай мяжы, – гэта колькасць мігалак ды* ***адмысловых*** *нумароў на машынах...* (Віцебскі кур’ер, 7.10.10); *Апускаеш манетку 20 крон у* ***адмысловую*** *прыладу, катаешся на ровары...* (Звязда, 13.10.10); *Сёння ж многія газеты маюць* ***адмысловыя*** *рубрыкі* (Наша ніва, 20.10.10); *Караткевіча на журфаку сёння чытаюць кожны дзень:* ***адмысловыя*** *чытанні арганізоўвае факультэцкая бібліятэка... Акрамя чытанняў, супрацоўнікі бібліятэкі падрыхтавалі* ***адмысловую*** *выставу* (Звязда, 6.11.10); *Тым, хто шукае сякіх-такіх навінаў з жыцця беларускіх гульцоў, лепш зазірнуць на* ***адмысловыя*** *сайты...* (Наша слова, 13.10.10); *Міжнародны дзень роднай мовы –* ***адмысловы*** *дзень, абвешчаны на 30-й сесіі ЮНЕСКА па прапанове Бангладэш* (Наша слова, 16.02.11); ***Адмысловы*** *статус Данбаса не пагражае цэласнасці Украіны* (Звязда, 13.09.14).

Аднакаранёвы назоўнік *адмысловец* мае значэнне “той, хто вызначаецца адметнасцю, добры спецыяліст, выдатны майстар, прафесіянал”. Шыкоўна гучаць тыпова беларускія выказванні: *Гэта сапраўдны* ***адмысловец****; Ён рэдкі* ***адмысловец****; Гэта справа для* ***адмыслоўцаў****.* Калі мы хочам аддаць належнае чалавеку-прафесіяналу, то яму прыемна будзе пачуць: *Ты сапраўдны* ***адмысловец****, гэтую справу можна даверыць толькі табе*. Ужываецца дадзены назоўнік і ў газетных тэкстах: *Патрэбна спраўдзіць, што ў Беларусі дастаткова лекаў і* ***адмыслоўцаў****, каб аказаць дапамогу* (Наша ніва, 3.11.10); ***Адмыслоўцы*** *прадракаюць Афганістану будучыню “літыевай Саудаўскай Аравіі”* (Звязда, 15.06.10); – *Беларусы хутка асвойваюць новыя тэхналогіі, – хваліліся* ***адмыслоўцы*** (Наша ніва, 25.08.10); *Аналітыкі швейцарскага банка UBS правялі даследаванне з удзелам вядучых* ***адмыслоўцаў*** *сусветных цэнтрабанкаў* (Звязда, 29.06.11).

Прыслоўе *адмыслова* найчасцей выкарыстоўваецца са значэннем “спецыяльна, у першую чаргу”. Калі выбіраць паміж дзвюма фразамі: *Я гэта расказваю спецыяльна для вас* і *Я гэта расказваю* ***адмыслова*** *дзеля вас*, дык відавочна, што апошні кантэкст у значна большай ступені падкрэслівае прыгажосць і адметнасць нашай мовы. Вялікай папулярнасцю карыстаецца названае прыслоўе і ў друкаваных СМІ: *У ЗША прайшоў чэмпіянат свету сярод кастамаў – так называюць* ***адмыслова****, адзінкава выробленыя матацыклы* (Наша ніва, 22.09.10); ***Адмыслова*** *ў кар’ерах здабывалі камяні, пасля іх ператваралі ў пудру... Я калі глядзеў розныя навучальныя фільмы – думаў, што там гавораць так* ***адмыслова*** *для вучняў, каб усё было зразумела, каб кожная літара гучала!* (Звязда, 20.10.10); *Да Пасхі глыбачане рыхтаваліся* ***адмыслова*** (Веснік Глыбоччыны, 27.04.11); *Але самае прыемнае, лічыць паэт, калі музыка пішацца* ***адмыслова*** *на пэўны верш* (Віцебскі праспект, 16.09.10).

Такім чынам, адметныя беларускія словы *адмысловы*, *адмысловец*, *адмыслова* расквечваюць індывідуальнае маўленне кожнага, хто іх выкарыстоўвае, характарызуюць чалавека як адукаваную, інтэлігентную асобу, каторая ўмее і можа гаварыць прыгожа.



# Каляндар на люты

**2 лютага – свята Ахвяравання Пана.**

Яго традыцыйна называюць яшчэ святам Маці Божай Грамнічнай, або Грамніцамі. Пачынаючы ад IX стагоддзя, вернікі ў гэты дзень прыносяць у касцёл свечкі, якія называюцца грамнічнымі, дзеля блаславенства. Назва гэтая паходзіць ад слова "гром", бо іх запальвалі падчас буры, ставілі ў вокны і маліліся аб аддаленні грому. Запаленую грамнічную свечку таксама даюць у рукі чалавеку, які памірае, каб Найсвяцейшая Панна Марыя прывяла яго душу ў неба.

**3 лютага – успамін святога Блажэя.**

Па прафесіі ён быў лекарам, а па пакліканні – біскупам Себастыі. Касцёл ушаноўвае яго 3 лютага, а на працягу ўсяго года яго заступніцтва просяць тыя, у каго хваробы горла адбіраюць голас і радасць жыцця. У гэты дзень у нашых касцёлах асвячаюцца свечкі, якія называюцца «блажэйкамі». Святар выкарыстоўвае гэтыя свечкі, прыкладаючы іх да горла, для ўдзялення блаславлення, якое павінна ахоўваць ад хваробаў горла, а таксама ад усялякага зла. Пра святога Блажэя варта таксама памятаць, калі, прыступаючы да споведзі, мы адчуваем «костку ў горле», якая перашкаджае нам вызнаваць цяжкія грахі.

**5 лютага – успамін святой Агаты.**

Маладая дзяўчына, якая, прагнучы захаваць чыстасць



і вернасць Хрысту, прыняла мучаніцкую смерць у Катаніі, на Сіцыліі, каля 250 г. Праз год пасля яе смерці адбылося вывяржэнне вулкана Этна. Патокі лавы пагражалі знішчыць увесь горад, але яны спыніліся, калі жыхары Сіцыліі, просячы ў малітвах заступніцтва Агаты, паклалі на іх шляху вэлюм, што належаў святой.

Дзякуючы гэтаму цуду Агату пачалі лічыць апякункай, якая ахоўвае ад пажараў. Яе культ хутка распаўсюдзіўся ва ўсім Касцёле, а імя святой згадваецца ў Рымскім Каноне. Згодна з традыцыяй, у дзень яе ўспаміну асвячаецца «хлеб святой Агаты», а таксама вада і студні.

**11 лютага – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з Люрда.**

Сусветны дзень малітвы за хворых. У гэты дзень у святынях можна атрымаць сакрамант намашчэння хворых. Удзяляецца ён вернікам, якія знаходзяцца ў цяжкім стане.

**18 лютага – Папяльцовая Серада.**

Папяльцовая Серада распачынае перыяд Вялікага посту, які доўжыцца 40 дзён. Традыцыйна ў гэты дзень адбываецца абрад пасыпання галоў попелам. Сам звычай пасыпання галоў попелам на знак жалю і пакуты вядомы ў многіх культурах і традыцыях. Мы знаходзім яго як у старажытным Егіпце і Грэцыі, так і ў індзейскіх плямёнах, а таксама, вядома, на старонках Бібліі, напрыклад, у Кнізе Ёны або Ёэля. Літургічная адаптацыя гэтага звычаю з'яўляецца, аднак, толькі ў VIII стагоддзі. Першыя сведчанні аб асвячэнні попелу з'яўляюцца ў X стагоддзі. У наступным стагоддзі Папа Урбан II увёў гэты звычай як абавязковы ва ўсім Касцёле. Таксама з таго часу паходзіць звычай атрымання попелу для пасыпання галоў вернікаў з пальмаў, пасвечаных ў Вербную Нядзелю папярэдняга года.

**На люты прыпадаюць дні нараджэння і імяніны наступных святароў і біскупаў:**

- **Біскуп Віцебскі Алег Буткевіч** адзначае імяніны 26 лютага;
- **ксёндз Аляксей Асон** (Ушачы) адзначае дзень нараджэння 10 лютага і дзень імянінаў 17 лютага;
- **ксёндз Кшыштаф Мянкіна** (Мёры) адзначае дзень нараджэння 22 лютага;
- **ксёндз Вадзім Прасяной** SCJ (Паставы) адзначае дзень нараджэння 18 лютага.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць аб малітве за гэтых святароў.**

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!** Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Феліцыя Небышынец** *(в. Дубовы Лог, Барысаўскі р-н)*, **Вераніка Абуховіч** *(в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Лія Мацюшонак** *(в. Прошкава, Глыбоцкі р-н)*, **Антаніна Альхімовіч** *(в. Карабы, Глыбоцкі р-н)*, **Марыя Матус** *(Валожын)*, **С.А. Мацулевіч** *(Браслаў)*, **Рамуальда Зайцава** *(Навапалацк)*, **Марыя Шкорнік** *(в. Даравое, Пастаўскі р-н)*, **Чэслаў і Іаланта Буткевічы** *(Браслаў)*, **Станіслаў Вышадка** *(в. Заваратэ, Глыбоцкі р-н)*, **В.В. Несцяронак** *(в. Віржы, Докшыцкі р-н)*, **Часлава Кіжло** *(в. Шуневічы, Глыбоцкі р-н)*, **Яўгенія Янковіч** *(в. Гарадзішча, Докшыцкі р-н)*, **Святлана Падгайская** *(Паставы)*, **Вольга Парневіч** *(в. Крулеўшчына)*, **Антаніна і Ганна Дарашкевіч** *(в.Янковічы)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Яніна Лоўкіс** *(Паставы)*, **Яніна Дулінец** *(в. Савуткі)*, **Яніна Жэмайтэль** *(Ліда)*, **Рэгіна Сідаровіч** *(Маладзечна)*, **Яніна Зінкевіч** *(в. Пліса, Глыбоцкі р-н)*.

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Жадаем усім Божага блаславення!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**25 студзеня 2015 г.** **Мк 1, 14-20**

У гэтым тэксце скарочана пададзена ўся навука Хрыста. Добра было б уважліва прачытаць тэкст. Сёння Езус таксама паклікаў сваіх першых вучняў, каб сталі ўдзельнікамі Яго Місіі. Яны тут жа ідуць за Ім. Уражвае іх рашучасць. Езус кажа, што прыйшоў час збаўлення. Час, калі Бог блізка, у нашых сэрцах. Трэба адвярнуцца ад зла і паверыць у добрую навіну пра Божую прысутнасць і блізкасць.

*– Ці прагну я блізкасці да Бога?*

*– Ці ведаю, якое гэта шчасце – мець Бога ў сэрцы?*

*– Ці цаню, што заўсёды маю святара ў канфесіянале для споведзі, магчымасць прыступіць да камуніі і пачуць Божае слова?*

*– Ці клапачуся, каб лепш убачыць і адчуць, чым ёсць Божая прысутнасць ува мне?*

*– Ці гатовы я пакінуць тое, што адводзіць мяне ад Езуса?*

*– Ці выкарыстоўваю я час ласкі, якім адорвае мяне Пан Бог?*

*– Ці гатовы я зрабіць штосьці незвычайнае, каб пайсці за Езусам?*

*– Ці маю рашучасць, каб ісці за Ім зараз жа?*

*– Калі апошні раз я зрабіў такі рашучы крок?*

*– Што я павінен сёння зрабіць?*

**1 лютага 2015 г.** **Мк 1, 21-28**

Божае царства распачынаецца, калі Езус пазбаўляе шатана ўлады на зямлі. У гэтым выпадку – улады над апантаным. Езус – Пан, Які мае ўладу над небам і зямлёй і Які перамог д'ябла. Ідзе вялікае змаганне за душы людзей. Барацьба за тое, каб прынялі моц Езуса. Каб адвярнуліся ад каралеўства смерці і сталі ўдзельнікамі Божага валадарства. Каб дазволілі Богу валадарыць у іх сэрцах.

*– Ці разумею, што шатан хоча адарваць маю душу ад Езуса?*

*– Ці разумею, што вядзецца духоўная вайна за маё сэрца?*

*– Ці змагаюся за Езуса ў сабе?*

*– Ці ўсведамляю, што непрыяцель выкарыстоўвае ўсе спосабы, каб разарваць маю еднасць з Езусам?*

*– Ці веру, што Езус перамог?*

*– Ці разумею, што занепад духу, смутак, роспач і расчараванне, а таксама недавер – гэта пачуцці, праз якія шатан хоча адарваць мяне ад Езуса?*

*– Ці разумею, што д'ябал хоча, каб я ўяўляў сваё жыццё з Езусам як нуднае і цемру, а грэх – як шчасце?*

*– Ці ведаю, што гэта хлусня?*

**8 лютага 2015 г.** **Мк 1, 29-39**

Езус мае моц перамагчы хваробу. Хвароба – знак слабасці і крохкасці чалавечай натуры. Езус шчодра адорвае здароўем хворых і выганяе д'ябла. Робіць гэта з лёгкасцю і сілай Валадара. Ён прыйшоў усталяваць каралеўства словам і справай. Д'ябал сваімі махінацыямі імкнуцца Яму перашкодзіць, але Ён іх утаймоўвае. Будуе каралеўства, у якім Ён – Пан. Каралеўства, у якім цярпенне служыць любові.

*– Ці іду я са сваімі слабасцямі і бедамі да Езуса?*

*– Ці разумею, што кожнае цярпенне мае сэнс толькі ў еднасці з Езусам? Бо тады яно будзе Царства Божае ўва мне.*

*– Ці разумею, што калі застаюся са сваім нуднасцем сам-насам, то аддаляюся ад Божага валадарства?*

*– Ці давяраю Езусу ў дарозе маёй духоўнай перамены?*

*– Ці слухаю Езуса?*

*– Ці шукаю ў Божым слове праўду пра самога сябе?*

*– Ці жыву паводле Божага слова?*

*– Ці паслухмяны я святому Касцёлу?*

*– Ці супрацоўнічаю з ласкай, якой адорвае мяне Езус праз спаведніка і духоўнага настаўніка?*

**15 лютага 2015 г.** **Мк 1. 40–45**

Аздараўленне ад праказы рыхтуе ўсіх нас да радаснай навіны. Езус прыйшоў вырваць нас з грэху. Чысты Езус дакрануўся да нячыстага чалавека і ачысціў яго. Натоўп прыняў гэты цуд з энтузіязмам. Езус рыхтуе для свету поўнае вызваленне ад праказы грэху і смерці.

*– Адчуваючы сябе нячыстым і ў смяротнай небяспецы, ці падаю я на калені перад Езусам?*

*– Ці веру, што Ён – Пан жыцця і смерці?*

*– Ці дазваляю чыстаму Богу дакрануцца да нячыстасці майго сэрца?*

*– Ці шчыра спавядаюся?*

*– Ці размаўляю з Богам пра свае балючыя справы?*

*– А можа, закрываюся на Божую ласку, ідучы за сваімі страхамі?*

*– Ці разумею, што д'ябал страшыць мяне, каб я не шукаў дапамогі ў Бога?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

Каталіцкі ВЕСНІК №1(46) студзень 2015 г.

# YOUCAT, або Як перадаць веру маладым

**YOUCAT. Сябры, гэты выраз перакладаецца не як «ваш кот», як хтосьці мог бы падумаць. YOUCAT (Youth Catechism of the Catholic Church) – гэта Катэхізіс Каталіцкага Касцёла для моладзі. Выданне новага катэхізіса было прымеркавана да Сусветных Дзён Моладзі, якія прайшлі ў 2011-м годзе ў Мадрыдзе.**

**а. Андрэй Буйніч**




Распачаўся ўжо 2015 год, а YOUCAT зноў на хвалі папулярнасці. Гэтаму, несумненна, пасадзейнічала яго выданне на рускую мову і даступнасць у першай каталіцкай інтэрнэт-краме (www.catholicshop.by). Першае, што хочацца сказаць, калі бярэш у рукі YOUCAT – гэта "ваў!" Так, сапраўды, гэта выданне годнае пахвалы:– фарматам набліжанае да сярэдняга (84 × 108 1/32) і мае крыху больш за 300 старонак. Сучасная вёрстка, малюнкі... Але пра ўсё гэта па парадку.

## "Я не буду яго купляць"

Нараджэнню YOUCAT папярэднічаў невялікі канфуз, які меў месца ў 2005 г. у Вене. Кардынал Шэнбёрн рабіў прэзентацыю Кампендыума Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, калі расчараваны журналіст задаў яму наступнае пытанне: «Ваша Эксцэленцыя, я хацеў купіць катэхізіс для маіх дзяцей-падлеткаў, але ён цалкам неспасцігальны для маладых людзей. Я не буду яго купляць». Лічыцца, што ўласна гэтая рэпліка выклікала ўнікальную падзею ў жыцці Царквы.

З'яўленню YOUCAT спрыяла ініцыятыва «знізу», падтрыманая кардыналам Шэнбёрнам, якая перарасла ў нараджэнне моладзевага Катэхізіса Каталіцкага Касцёла! YOUCAT быў апублікаваны ў 2011 годзе на 22 мовах у 50 краінах. 700 тысяч асобнікаў катэхізіса былі ўкамплектаваныя ў заплечнікі пілігрымаў Сусветных дзён Моладзі ў Мадрыдзе.

## Нараджэнне YOUCAT

YOUCAT паўстаў па асабістай ініцыятыве чатырох яго аўтараў. Сярод іх два святары: Ёханэс Эльц (Johannes Eltz), у цяперашні час пробашч ў Франкфурце, і доктар Хрысціян Шміт (Christian Schmitt), святар супольнасці «Эмануэль», якая належыць да Мюнстэрскай дыяцэзіі. Два іншых суаўтары – гэта свецкія тэолагі, якія маюць свае сем'і – Бернард Мюсер (Bernard Meuser), дырэктар выдавецтва «Pattloch» і аўтар кніг на духоўныя тэмы, а таксама Мікаэла Герман (Michaela Heereman), журналіст і пісьменнік.

Тое, што робіць YOUCAT унікальным, дык гэта ўклад, які ўнеслі ў яго 52 маладыя супрацоўнікі ва ўзросце ад 15 да 25 гадоў – католікі і пратэстанты, вучні і студэнты. На працягу двух летнікаў у 2006 і 2007 гадах яны «прааралі» ўвесь Кампендыум Катэхізіса Каталіцкага Касцёла пад кіраўніцтвам згаданых аўтараў. Пяць дзён на тыдзень яны па 6-8 гадзін у дзень чыталі і абмяркоўвалі вучэнне Касцёла ў чатырох тэматычных групах. Іх часта рэзкая крытыка цяжкай тэалагічнай тэрміналогіі, экзістэнцыяльныя пытанні, а таксама іх усё большая цікавасць да тэалогіі натхнялі аўтараў у няпростай справе – перадаць веру Каталіцкага Касцёла маладым людзям у цікавай і прывабнай форме.

## Структура YOUCAT

Катэхізіс YOUCAT сваёй структурай паўтарае Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, г.зн. мае чатыры часткі:

1. Вызнанне веры;
2. Здзяйсненне хрысціянскай таямніцы (Святая Літургія, з асаблівым вылучэннем сакрамантаў);
3. Жыццё ў Хрысце (прынцыпы хрысціянскага ладу жыцця, выкладзеныя на аснове запаведзяў);
4. Хрысціянская малітва.

Вось так выглядае катэхізіс знутры! Досыць ярка і маляўніча, але з густам і пачуццём меры. Асноўная асаблівасць выдання – гэта палі. На палях «выпісаныя» цытаты з Біბліі, словы святых або хрысціянскіх аўтараў, а таксама важныя акрэсленні (гл. на фота нумар 6).

Інфармацыя традыцыйна пададзена ў форме пытанняў (гл. на фота нумар 1) і адказаў (усяго такіх пытанняў-адказаў у катэхізісе роўна 527). Адказ дзеліцца на дзве часткі: тлустым шрыфтам (нумар 2) выдзелена цытата з Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, якая звычайна выказвае коратка і ясна асноўную думку адказу на пытанне; другая ж частка – гэта больш падрабязныя тлумачэнні, з прыкладамі для лепшага разумення (нумар 3).

Таксама ў канцы адказу могуць быць спасылкі на дадатковыя пытанні з YOUCAT (лічбы ў канцы адказу, гл. на фота нумар 4). Спасылкі на Катэхізіс Каталіцкага Касцёла вылучаныя квадратнымі дужкамі (гл. нумар 5) і знаходзяцца пасля цытаты з яго. У канцы кнігі пададзены індэкс з найбольш важнымі тэрмінамі, якія пералічваюцца разам з нумарамі пытанняў, у якіх сустракаюцца. Гэта вельмі зручна, калі вы шукаеце інфармацыю на пэўную тэму, бо па ключавым слове яе лёгка знойдзеце. Акрамя гэтага, у канцы кнігі змешчаны таксама спіс назваў усіх зафіксаваных у YOUCAT азначэнняў разам з нумарамі адпаведных старонак, дзе іх можна знайсці.

Ну вось, гэта пакуль усё пра YOUCAT. Магу толькі дадаць, што абавязкова трэба выдаць гэты катэхізіс таксама на роднай мове. Для гэтага ўжо ёсць прыклад і падстава – «Кампендый» Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, які быў выдадзены ў 2005 годзе пабеларуску.

**P.S. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла для моладзі "YOUCAT. По-русски" можна заказаць у каталіцкай інтэрнэт-краме CatholicShop.by або патэлефанаваць па нумары +375297365307. Кошт кнігі – 149000р.**

## Віншуем!

*Сардэчна віншуем **Алега Буткевіча, біскупа Віцебскага**, з першай гадавінай біскупскіх пасвячэнняў. Мы ўдзячныя за ўвагу да штодзённых справаў і клопатаў нашай парафіяльнай супольнасці, іншых супольнасцяў дыяцэзіі, за чуласць і зычлівасць у адносінах з людзьмі. Мы жадаем нашаму пастыру і далей не траціць творчага запалу ў нялёгкай справе выканання пастырскай паслугі, моцнага здароўя і пастаяннай Божай апекі.*

*Дарагі Ойча! Няхай будзе для Вас шчодрым на плённую працу новы 2015-ы год! Хай заўсёды радуюць Вас годнымі ўчынкамі Вашы вернікі і дадае Вам аптымізму навяртанне да Бога як мага большай колькасці тых, хто яшчэ на пачатку шляху да хрысціянскай Веры.*

*З павагай і ўдзячнасцю, вернікі, святары, законныя сёстры парафіі катэдральнага касцёла Езуса Міласэрнага*

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
Заснавальнік: мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»
Выдавец: рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ
Галоўны рэдактар: кс. Віктар Місевіч
Тэхнічны рэдактар: Дзмітрый Лупач
Рэдактар сайта: Марына Сінкевіч
Карэктары: Юрась Бабіч, Алена Пажога
Газета набрана і зверстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 250
Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3100 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 14.01.2015 г. у 11.19
Юрыдычны адрас: 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
Адрас для карэспандэнцыі: 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by
ISSN 2224-9621




Наш падпісны індэкс 63783
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ